

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 4(75) Красавік 2000 April Год выд. 8.

М. БАГУН

## ВЯЛІКДЗЕНЬ

У цягу штодзённай працы незаўважна праходзяць падобныя адзін да аднаго дні.

І вось — падыходзіць Вялікдзень... Напэўна ніхто з беларусаў ня зможа спаткаць яго на чужыне так, як спатыкаў калісь у роднай хаце. А колькі такіх, хто ў гэты дзень не пачуе нават ніводнага роднага слова, не пачуе ад нікога гэтак радаснага "Хрыстос Уваскрос!". І тады кожны з іх напэўна перанясецца думкамі ў родны край...

На час вялікодных сьвятаў наш народ стварыў за вякі багатую і прыгожую традыцыю. І цяпер, хоць абставіны кінулі яго ў змрочны час, ён сустракае гэтыя сьвяты так, як сустракалі ягоныя дзяды і прадзеды; у гэтыя дні ён адпачывае душой у скарбах сваіх традыцыяў.

Ужо пачаўшы ад Дабравешчаньня, калі наша вёска пачынае рыхтавацца да вясны, то сям, то там пачуеш вялікодныя мэлёдыі: моладзь загадзя рыхтуецца да сьвятаў.

А час ідзе. Хутка ўсюды ўжо адчуваецца, што надыходзіць нешта нязвычайнае. У хаце рух, маці завіхаецца як ніколі. Дый бацьку хапае клопатаў: сьвяты не за гарамі — трэба-ж дзяцей апрануць. А яны ведаюць, праходу не даюць: "Тата, мне чаравікі новыя купіш? А то бачыш во, гэтыя ўжо дзяруцца!" "А мне, тата, сукенку ў кветачкі, добра?" А тата ўсім абяцае ды камбінуе, як тут усім дагадзіць. Малыя — гэта яшчэ ня так страшна, з імі лёгка. Але вось старэйшы надаядае, каб боты новыя купіў — трэба-ж і яму па вёсцы козырам прайсьці! А з дачкою, дык чыстая бяда — тут што-небудзь не паможа — купляй усё новае з ног да галавы. Ды нідзе ня дзенешся — суседава ўжо разоў тры прыбягала — хвалілася сваёй сукенкай. А няўжо-ж тая будзе мець, а ягоная не? Ну, гэтага 'шчэ ня бывала! Трэба будзе раскашаліцца... Што зробіш — гэта-ж Вялікдзень!

За тыдзень перад Вялікаднем — у Вербную нядзелю — ідуць сьвянціць вярбу. Прыйшоўшы дамоў, маці абавязкава пасьцёбае ўсіх вярбой, прыгаварваючы: "Ня я б'ю — вярба б'е, за тыдзень — Вялікдзень!" — а гэта, каб цэлы год здаровымі былі. Пасьля вярбу закладаюць за абразы — яна яшчэ патрэбная будзе, калі прыдзецца першы раз жывёлу ў поле выганяць.

Апошні тыдзень — гэта самы гарачы ў цэлым годзе. А маці, як яна сама кажа — сто работаў, хоць спаць не кладзіся. А што пачынаючы ад Чыстага чацьвярга, дык запраўды спаць няма часу; трэба памыць хату, прыбраць двор (абавязкава ў Чысты чацьвер — каб цэлы год чыста было). Гэтаксама ў Чысты чацьвер — трэба дзяцей дагледзець, каб на парозе ніткі пралі да сонца, і то ў аднэй кашулі — а гэта каб нагі ці рукі ня вывіхнуць за цэлы год. Калі-ж ужо і здарыцца гэта, дык тады трэба перавязаць гэткай ніткай.

А бацька ўжо на дні ўважае. Бо-ж ведама: калі пагодны Чысты чацьвер — значыць будзе пагодная вясна ў гэтым годзе.; калі пагодная пятніца — пагоднае лета, сыбота — пагодная восень.

У пятніцу печ у рабоце ўвесь дзень; пячэцца, варыцца, смажыцца. Маці выпраўляе дзяцей пагуляць, бо круцяцца пад нагамі, перашкаджаюць. Але ці ты ім дасі рады: як-жа тут ісьці з хаты, калі вунь яйкі хварбуюцца — трэба-ж будзе прыпільнаваць, каб бацька адразу пазубаваў ды выбраў наймацнейшыя на біткі. А ўжо калі з печы ўсё дастанецца, то тут закладай пост які хочаш, дык толку мала — што там ім грушы ці ягады вараныя, калі бабкі проста ў рот просяцца.

У Красную сыботу пануе ўжо ў хаце сьвяточны настрой. Хата выглядае, як ніколі — сьцены выбеленыя ці абітыя паперай, абразы ўбраныя, ложкі чысьцюсенька засланыя, качаргешнікі — і тыя ў парадку. Двор замецены і высыпаны пясочкам. Усе ўжо гатовыя, чакаюць. Толькі маці да самай Усяночнай нешта парадкуе, булкі сартуе, нейкія стравы пераstaўляе, сьвянціць у кошык прыбірае.

На Ўсяночную ідуць усе. Царква поўная — людзі стаяць нават на двары. У царкве ціха, толькі гучыць голас сьвятара. Калі-ж надыходзіць 12-я гадзіна і сьвятар выходзіць з радасным "Хрыстос Уваскрос!" — закалышацца поўная царква, быццам нейкі вецер прабягае па ёй. І як шум мора "Запраўды Ўваскрос!" з моцнай верай гучыць адказ. А хор, нібы пацьвярджаючы гэтую вялікую навіну, магутна ўрываецца: "Хрыстос уваскрос із мёртвых — сьмерцяй сьмерць перамог!" І кожнаму здаецца, што Хрыстос уваскрос не стагодзьдзі назад, а вось у гэты момант — нешта новае, моцнае ўліваецца ў душу...

На сьвітаньні, пасьвянціўшы адмыслова напоўненыя карзіны, разыходзяцца ўсе да хатаў. А там вялікоднае сьнеданьне. Бацька, згаварыўшы малітву, канчае звычэньнямі: "Дай Божа, каб за год прычакалі!" Тады дзеляцца ўсе сьвянцоным яйкам, а пасьля — чаго толькі душа жадае: мяса, пірагі, бабкі, квашаніна — стол проста цьвіце...

На першы дзень, калі сонца схіліцць з паўдня, пачынаецца валачобніцтва. Пабачыце валачобнікаў якіх захочаце, і па 10 гадоў, і па 15, і старых пяўцоў, дзе скрыпкі і гармонікі ўдзел бяруць. Зразумела, большую ўвагу прыцягваюць старэйшыя валачобнікі, бо яны табе так напяюць-наўвялічаюць, што і апісаць цяжка. А вёска сную за імі. Чуеш — у вадным двары гаспадару пяюць: "Дай табе Божа, пане гаспадару, піва варыці ды сыноў жаніці; гарэлачку гнаці, дачок аддаваці... Тваёй жане ды баброву шубу, а самому пану круглае поле"... Пайшлі ў другі — паненцы сьпяваюць: "У вагародзе, у чыстым частаколе ня мак — ружа расьцьвітала". У трэйцім — гаспадыню проста ўздымаюць: "У нашай гаспадыні як рэшата дыні, агуркі, гарбузы, як вядро дужы". Далей чутно, дзе кавалеру пяюць: "паміж гарамі, паміж ручаямі..." І так валачобнікі за валачобнікамі — усіх не перачакаць. Ужо пад поўнач падбіраецца, а вёска ў песьнях топіцца, нат пад сьвет яшчэ можна пачуць валачобнікаў.

Першы дзень усе праводзяць у хаце, у сваёй сям'і. Затое назаўтра — што толькі робіцца ў вёсцы! У кожнай хаце госьці, песьні, сьмех — радасьць аж пераліваецца. На вуліцы відаць групкі, гэта "біткі" ідуць у ход. Вось два стаяць з "мацакамі" ды ніяк ня могуць пагадзіцца, каму трымаць, а каму біць. А з боку падказваюць: "Трымай, Сымон, хіба ты ў яйцы радзіўся? Хай б'е!" Наважыўся Сымон, трымае. І тут — лусь, лусь, і па "мацаку". І злуецца Сымон, што адважыўся трымаць — каб біў, дык можа-б і выбіў...

Весела праходзіць Вялікдзень. А пасьля — прысьвяткі: градавая серада, чацьвер, ды так аж да нядзелі. Прайшла нядзеля — цераз дзень і Радаўніца. А там, бывае, і Юр'я за дзён два надыйдзе — у вёсцы ўсё яшчэ сьвяточны настрой.

Хрыстос Уваскрос!!!





**Спадар Аўген ГРУША —**

**старшыня Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі, сакратар Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі, сябра Беларускага Сацыяльнага Клюбу ў Мэлбурні, парафіянін БАПЦ у Мэлбурні, вялікі патрыёт свайго народу.**

**Дарагі Аўген! Вітаем Цябе на старонках нашае незалежнае газэты.**



**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## У ВАШЫНГТОНЕ АМЭРЫКАНСКІЯ БЕЛАРУСЫ ПРАТЭСТАВАЛІ СУПРАЦЬ ДЫКТАТУРЫ Ў БЕЛАРУСІ Й РАСЕЙСКАГА ІМПЭРЫЯЛІЗМУ

25-га сакавіка ў Вашынгтоне адбылася дэманстрацыя перад будынкам беларускае, а пасьля расейскае абмасадаў. Каля 150 чалавек, сярод якіх было шмат новых імігрантаў зь Беларусі, адзначылі дэманстрацыяй 82-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі. Разам з гэтым яны выказалі пратэст супраць лукашэнкаўскае дыктатуры ў Беларусі й нацыянальнае здрады праз задуманую ліквідацыю сувэрэнітэту рэспублікі й зьліцьцё яе з Расеяй у адну дзяржаву. Дэманстранты пад бел-чырвона-белымі сьцягамі, з мноствам плякатаў, скандавалі лёзунгі: "Жыве Беларусь!"; "Далоў Лукашэнку!"; "Ho-ho-ho! Lukashenka got to go!" і падобныя. Праходжым раздаваліся лістоўкі зь інфармацыяй пра Беларусь і тлумачэньнем прычынаў дэманстрацыі.

Віталь Зайка, старшыня ньюёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, заявіў, што дэманстрацыя праводзіцца ў знак салідарнасьці з падобнымі пратэстамі, якія адбываліся таго самага дня ў беларускай сталіцы Менску ды ў гэткіх гарадох Беларусі, як Віцебск, Берасьце, Салігорск, Слонім, Маладэчна ды іншыя. Янка Запруднік прачытаў паведамленьне пра бязьлітасны разгон менскае дэманстрацыі, што адбылася колькі гадзін перад тым таго-ж самага дня. Пазьнейшыя паведамленьні міжнародных агенцтваў друку толькі пацьвердзілі жудасныя дэталі разгону.

На праўдзеным перад пасольствам РБ мітынгу была прынятая рэзалюцыя з асуджэньнем здушваньня волі беларускага народу й гвалтаваньня правоў чалавека. Паколькі ніхто ані зь беларускае ані з расейскае амбасады ня выйшаў да дэманстрантаў, рэзалюцыя была пакінута ля ўваходу ў будынкі пасольстваў.

Дэманстрацыя была арганізаваная пад знакам Кааліцыі ў абарону дэмакратыі й правоў чалавека ў Беларусі аддзеламі БАЗА ў Нью-Ёрку, Нью-Брансьвіку, Кліўленду з удзелам прадстаўнікоў БАЗА ў Вашынгтоне й Фэрфаксе, штат Вірджынія.

Падобныя дэманстрацыі салідарнасьці з дэмакратычнай апазыцыяй у Беларусі адбыліся ў Вільні, Кіеве, Варшаве, Празе, Лёндане, Брусэлі й Стакгольме.

Я. З.

# ДЗЕНЬ ВОЛІ НА ВУЛІЦАХ МЕНСКА

**Улада, спужаўшыся свайго народа, вывела на вуліцы спэцчасткі і БТРы. Але некалькі тысячаў чалавек усё ж прыйшло адзначыць Дзень Незалежнасьці.**

*Мы прапануем вам кароткі агляд падзеяў дня 25 сакавіка ў беларускай сталіцы.*

Раніцай 25 сакавіка ў цэнтар Менска пачалі ў тэрміновым парадку сьцягвацца ўзмоцненыя падразьдзяленьні АМПА, унутраных войскаў і міліцыі. Да месца праўдзеньня мітынга падышлі некалькі БТРаў, пажарных машынаў, машын хуткай дапамогі, шматлікія аўтобусы і аўтамабілі з танаваным шклом, зь якіх увесь час паказваліся людзі ў цывільным і пра нешта размаўлялі зь міліцыяй.

Да 11 гадзіны прашпэкт Скарыны, вуліцы, якія да яго прылягаюць і двары былі шчыльна ачэпленыя супрацоўнікамі АМАПу, узброенымі гумавымі дубінкамі. Да паловы на дванаццатую непасрэдна на пляцы Якуба Коласа зьявіліся міліцэйскія патрулі з ратвелерамі. На самім пляцы не было нават прахожых - туды нікога не пускалі. Народ, які прыйшоў на мітынг, сабіраўся на супрацьлеглым баку прашпэкта насупраць Дзяржаўнай Філярмоніі.
Тым хто сабраўся было аб'вешчана, што мітынг не санкцыянаваны гарадзкімі ўладамі і любога, хто стаяў на месцы праўдзеньня мітынга будуць аўтаматычна лічыць яго ўдзельнікам і адводзіць у РАУС. Фактычна былі забароненыя любыя хаджэньні па такім шматлюдным месцы як пляц Якуба Коласа, праз які ў выходныя дні ідуць натоўпы народу да Камароўскага рынку. Відаць, такой колькасьці людзей ў форме пасьляваенны Менск яшчэ ня бачыў. Уздоўж вуліцаў Якуба Коласа і Чырвоная расцягнуліся людзі ў ахоўных



шаломах, з дубінкамі і рацыямі, пры чым стаялі яны на адлегласьці выцягнутай рукі, такім чынам, што паміж імі ледзь было магчыма прайсьці. У глыбіні двароў былі бачныя грузавікі колеру хакі. Гараджане, якія ў гэты цудоўны сонечны дзень знаходзіліся дзе-небудзь бліз цэнтру Менска, жахаліся з боку ў бок, не разумеючы, што адбываецца ў іх горадзе. Па дварох хаваліся хлапцы ў скураных куртках і ўзіраліся ў твары прахожых і жыхароў дамоў. На фоне міліцэйскіх аўтобусаў, якімі былі напоўненыя ўсе бліжэйшыя жылыя масівы, мірна гулялі дзеці…

Дзеці старэйшыя роўна а 12.00 былі сабраныя ў актавых залях сваіх школаў, з бацькоў бралі падпіску аб тым, што 25 сакавіка а 12.00 іх дзеці будуць знаходзіцца пад хатнім наглядам. У некаторых дзяржаўных інстытутах былі нават аб'яўленыя дадатковыя заняткі.

Прыкладна каля 12 гадзінаў міліцыянты каля дзьвярэй Управы Бларускага народнага фронта затрымалі некалькі сябраў гэтай арганізацыі, якія выйшлі і накіраваліся ў бок пляца Я. Коласа. Гэта выклікала ланцуговую рэакцыю - з Управы выскачылі іншыя БНФ-аўцы, якія заступіліся за сваіх сяброў. У выніку было арыштавана каля 40 чалавек. Наступнымі ў "аўтазакі" накіраваліся каля 20-ці сябраў Аб'яднанай грамадзянскай партыі, якія прыйшлі ва Управу, каб потым накіравацца на мітынг. Міліцыянты заблякавалі ўваход на Управу і забіралі ўсіх, хто спрабаваў туды увайсьці-выйсьці. Людзей забіралі далёка ад месца парвядзеньня акцыі, фактычна проста за тое, што яны накіроўваліся на яе.

Гэта былі першыя затрыманыя сёньня людзі. У іх лік трапіў і адзін з арганізатараў акцыі, віцэ-прэзыдэнт Беларускага кангрэсу беларускіх прафсаюзаў Віктар Івашкевіч. Прыкладна каля 14 гадзіны ён зьвязаўся з прэсавым цэнтрам Хартыі па мабільным тэлефоне з Савецкага РАУС і паведаміў, што яго абвінавачваюць у арганізацыі несанкцыянаванай акцыі. Разам зь Івашкевічам у РАУС знаходзіцца каля 80 чалавек.

Гэтыя людзі патрапілі ў міліцыю з пляцу Якуба Коласа і прылеглях да яе вуліцаў. Міліцыя жывым колам, пачынаючы з 11.40, ачапіла пляц і нікога туды не пускала. Людзі пачалі скопліваця каля кардонаў. І ў той момант міліцыя пачала арышты. Пад крык мегафонаў аб тым, каб усе разыходзіліся, людзей хапалі і садзілі ў спэцыяльныя машыны, якія развозілі іх па пастарунках. У кожным РАУС знаходзіцца зараз па некалькі




дзясяткаў чалавек. Таксама ў спартовую залю часткі ўнутраных справаў на вуліцы Маякоўскага было зьвезена каля 200 чалавек.

У выніку паўтарагадзіннай "зачысткі" у раёне пляцу Якуба Коласа і ў цэнтры горада затрымана каля 500 чалавек. Людзей проста выхоплівалі з натоўпу, пачуўшы толькі беларускую мову альбо крыкі нязгоды. Было схоплена нямала простых прахожых. На прыступках філярмоніі час ад часу ўзьнікалі дробныя сутычкі, якія сканчаліся тым, што два-тры міліцыянты вялі ў машыну чарговага затрыманага.

Усе гэтыя падзеі адбываліся ў самым цэнтры Менска ў выходны дзень. Дзясяткі тысячаў менчукоў назіралі за неабмежаванасьцю ўладаў. Бо людзей забіралі проста так, за тое, што яны стаялі і выказвалі незадаволенасьць дзеяньнямі міліцыі.

У выніку пацярпелі і замежныя назіральнікі. Каля Управы БНФ былі затрыманыя два дэпутаты Польскага Сейма, якія прыехалі напярэдадні ў Менск для назіраньня за акцыяй. Быў арыштаваны намесьнік старшыні кансультатыўна-назіральнай групы АБСЭ у Беларусі Крыстафер Паніка. Сем польскіх і славацкіх журналістаў таксама былі арыштаваныя.

Міліцыя затрымала здымачныя групы буйнейшых расейскіх тэлеканалаў - ГРТ, НТБ, РТР. ГРТ разьбілі камэру, у адносінах да апэратара РТР была прыменена грубая фізічная сіла. Актамя супрацоўнікаў тэлевізіі, было арыштавана каля 40 журналістаў буйнейшых інфармацыйных агенцый і друкаваных выданьняў, беларускія журналісты. Каля 14 гадзіны затрыманыя журналістаў пачалі адпускаць. Спачатку вызвалілі НТБ і ГРТ, потым усіх астатніх.

Астатнія людзі працягваюць заставацца ў міліцыі. На іх складаюцца пратаколы. Па інфармацыі, якая паступае, усіх затрыманых звозяць у спортзалю на вуліцы Маякоўскага. Нагадаем, што напярэдадні "Міжнародная Амністыя" аб'явіла ўсіх затрыманых на акцыі Вязьнямі Сумленьня.

Каля 13 гадзіны, пасьля доўгай "зачысткі", частка сабраных згрупавалася ў калёну і па ходніках прашпэкта Скарыны і вуліцы Сурганава накіраваліся ў бок пляцоўкі на аўтастанцыі Кульман, дзе быў дазволены афіцыйны мітынг. Калёна, у якой было каля 4 тысячаў чалавек, падняўшы сьцягі, дайшла да Кульмана за гадзіну. Там яе чакала яшчэ некалькі тысячаў чалавек,



прыйшоўшых на мітынг. Людзі ўсё падыходзілі і падыходзілі. Да 14.20 на Кульмане ўжо праходзіў 10-тысячны мітынг. Арганізатары акцыі ўсклалі віну за неабмежаванасьць, якая была на вуліцах Менска 25 сакавіка, на гарадзкія ўлады, міліцэйскае кіраўніцтва і, безумоўна, на Аляксандра Лукашэнку, які сяньня раніцай паляцеў зь візытам у Аб'яднаныя Арабскія Эміраты.

**"Хартыя '97"**

# Хваля акцыяў пратэсту ў Дзень Волі 25 Сакавіка пракацілася па ўсёй Беларусі.

25 сакавіка ў **Гомлі** з нагоды 82-й гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі (Дзень Волі) група грамадзянаў правяла пікетаваньне.

Пікетчыкі - каля 15 чалавек - трымалі плакаты з лёзунгамі ў падтрымку разьвіцьця Беларусі як сувэрэннай дзяржавы. Іх "ахоўвалі" ня менш за 8 чалавек, як у цывільным, так і ў міліцэйскай форме. Адзін з міліцыянтаў, у званьні маёра, запатрабаваў ад арганізатараў пікету прад'явіць пашпарты, у адваротным выпадку, ён паведаміў, што акцыя будзе спыненая. На просьбу прадстаўніцца ён адказаў толькі, што яго імя Уладзімір і ён займае кабінет № 40 у адзьдзеле ўнутраных справаў Чыгуначнага раёна Гомлі. Пачуўшы такі адказ, пікетчыкі адмовіліся прадастаўляць дакумэнты. Адна з арганізатараў пікету, гамяльчанка Алеся Кацапава, зьвярнула ўвагу ўдзельнікаў акцыі на ўказаную гарвыканкамам неабходнасьць аплаціць расходы на ахову грамадзкага парадку і ўборку тэрыторыі. Было вырашана, што калі гарадзкія ўлады прад'яўяць рахунак, дык арганізатары пікету зьвяенуцца ў суд.

Некалькі соцень чалавек узялі ўдзел у мітынгу, які адбыўся 25-га сакавіка ў **Бярэсьці**. Арганізатарамі мітынгу выступілі практычна ўсе дэмакратычныя партыі і арганізацыі абласнога цэнтра.

Акцыя была санкцыянавана ўладамі, аднак правесьці яе дазволілі не на цэнтральным пляцы горада, а на аддаленым ад цэнтра стадыёне "Будаўнік". На трыбунах стадыёна луналі нацыянальныя бел-чырвона-белыя сьцягі, здалёк можна было прачытаць лёзунгі ў падтрымку незалежнасьці Беларусі, гучалі беларускія вершы й песьні. Удзельнікі мітынгу прынялі рэзалюцыю, у якой выказалі сваё стаўленьне да падзеяў, што адбываюцца ў краіне, і надзею на тое, што ўсё, нарэшце, зьменіцца ў лепшы бок.

Не абыйшлося і без правакацыяў - на стадыёне зьявіліся пяцёра маладых людзей з дзяржаўнымі сьцягамі, якія спрабавалі прыцягнуць да сябе ўвагу. Аднак да сутыкненняў паміж удзельнікамі мітынгу і людзьмі са сьцягамі не дайшло.

25 сакаівка ў **Віцебску** затрыманьні міліцыяй патэнцыяльных удзельнікаў санкцыянаванай акцыі, прысьвечанай 82-м угодкам БНР, прывялі да яе зрыву.

Каля дзесятка грамадзянаў, якія накіроўваліся пад бел-чырвона-белымм сьцягамі на Ратушны пляц (месца збору ўдзельнікаў акцыі), былі затрыманыя на пляцы Свабоды. Незадоўга да гэтага ў іншым раёне Віцебска, ля помніка паэтцы Эўдакіі Лось, быў затрыманы і праведзены ў машыну міліцыі спэцыяльны карэспандэнт газэты "Народная воля" Валеры Шчукін. Менскі журналіст браў інтэрв'ю ў старшыні Віцебскай рады Кансэрватыўна-хрысціянскай партыі БНФ Уладзіміра Плешчанкі. Сьледам за Шчукіным і Плешчанкам у адзьдзяленьне міліцыі быў прымусова адпраўлены і сябра КХП БНФ Раман Салаўян, які трымаў у руках зачахлёны бел-чырвона-белы сьцяг, і актывісты Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі спадароў Салаўяна і Піменава -- усяго 8 чалавек.

У выніку санкцыянаваныя віцебскімі ўладамі шэсьце і мітынг не адбыліся. У знак салідарнасьці з затрыманымі тыя, хто сабраўся на Ратушным пляцы, адмовіліся ад правядзеньня акцыі. Згарнуўшы бел-чырвона-белыя сьцягі і транспарант "25 сакавіка - Дзень Волі", яны разышліся.

Паводле папярэдняй інфармацыі, 27 сакавіка ўсім затрыманым будуць прад'яўлены абвінавачаньні ў парушэньні грамадзкага парадку.

Валеры Шчукін пасьля арышту абўявіў галадоўку пратэсту.

У **Лідзе** 25 сакавіка адбыўся сьвяточны мітынг, прысьвечаны Дню Волі. Яго ладзілі супольнымі намаганьнямі БНФ пад кіраўніцтвам Вінцука Вячоркі і БНФ пад кіраўніцтвам Зянона Пазьняка.

Каля 70 удзельнаў мітынгу сабраліся ўраніцу ля Кургану Несьмяротнасьці. Але не пасьпелі яны разгарнуць бел-чырвона-белыя сьцягі, як да іх падыйшлі міліцыянты й папрасілі перайсьці на іншае мейсца, на гэтак званую "культурную пляцоўку", што месьціцца побач, але ў глыбокай яміне. Міліцыянты, відавочна, баяліся, каб да мітынгоўшчыкаў ля Кургану не далучыліся тыя жыхары гораду, якія якраз вярталіся з гарадзкога кірмашу.

У **Гародні** ўдзльнікі мітынга сабраліся на цэнтральным пляцы горада Савецкім. Калі яны пачалі рух да месца мітынга па ходніках, дык былі спыненыя міліцыяй, а потым АМАПам, якія накіравалі іх па вуліцы Кашавога з інтэнсыўным дарожным рухам, матывуючы гэта тым, што нельга праходзіць каля выканкама. У мітынгу ўзяло ўдзел каля трох тысячаў чалавек. Затрыманьняў не было, але грамадзянін Мальчык атрымаў позву ў суд на сераду.

У **Баранавічах** на сьвяточны мітынг сабралася ад 500 да тысячы чалавек. Мітынг прайшоў мірна, але пасьля яго быў затрыманы грамадзянін У. Гоўша за тое, што нес бел-чырвона-белы сьцяг.

У **Бабруйску** каля 300 чалавек сабраліся на цэнтральным пляцы горада, віншавалі адзін аднаго са сьвятам, раздавалі праваабарончую літаратуру. Мітынг не праводзіўся. Калі людзі пачалі разыходзіцца, невядомыя ў цывільным пачалі арыштоўваць грамадзянаў, былі затрыманыя намесьнік старшыні Бабуйскай філіі Народнай Грамады А. Чигирь, загадчыкк грамадзкай прыёмнай БГК В.Сьвізуноў, журналіст І.Хіцько. Усяго -- каля 20 чалавек.

25 сакавіка ў **Магілёве** адбыліся сьвяточныя шэсьце й мітынг, прысьвечаныя Дню Волі.

Арганізатары акцыі - Магілёўская арганізацыя БНФ "Адраджэньне", БСДП "Народная Грамада", Свабодны Прафсаюз - атрымалі дазвол на правядзеньне мерапрыемстваў на аддаленай ад цэнтру горада пляцоўцы каля ДК заводу імя Куйбышава. Ўдзельнікі акцыі сталі зьбірацца а 12-й гадзіне на адной з цэнтральных плошчаў гораду - пл. Арджанікідзэ. Праз паўгадзіны ўдзельнікі акцыі рушылі ў напрамку ДК заводу імя Куйбышава.

Шэсьце налічвала каля 500 ўдзельнікаў. Яны несьлі ў руках сьцягі АГП, БНФ, СПБ, ТБМ, плякаты антыпрэзыдэнцкага зьместу, а таксама прысьвечаныя Дню Волі. Шэсьце суправаджалі 8 патрульных машын міліцыі й аўтобус з АМАПам. Напрацягу ўсёй акцыі, бесперапынна, трыма супрацоўнікамі міліцыі й адным супрацоўнікам КГБ вяліся відэаздымкі падзеяў. Ніякіх перашкодаў арганізатарам мерапрыемстваў з боку прававахоўчых ворганаў не чынілася. Пасьля заканчэньня мітынгу супрацоўнікамі Цэнтральнага РАУС г. Магілёва быў складзены пратакол аб парушэньні заяўніком акцыі, кіраўніком абласной філіі БНФ "Адраджэньне" Анатолем Фёдаравым, Закону РБ "Аб сходах, мітынгах, шэсьцях...". А. Фёдараў выкліканы ў Цэнтральны РАУС г. Магілёва на 900 27.03.2000 г. дзеля разьбіральніцтва, пасьля чаго над ім мусіць адбыцца суд.

Акцыі ў Дзень Волі 25-га Сакавіка прайшлі таксама ў **Воршы, Сьвіслачы, Воранаве, Шчучыне, Смаргоні, Полацку, Наваполацку, Дзятлаве, Мастах, Слоніме, Пінску, Салігорску**. У іх узяло ўдзел ад некалькіх дзесяткаў да некалькіх сотняў чалавек.

**Паводле: Хартыя '97**

# Сьвяткаваньне Дня Незалежнасьці Беларусі ў Чыкага, ЗША.

Урачыста адзначалася нацыянальнае беларускае сьвята – Дзень Незалежнасьці, Дзень волі, 82-я ўгодкі БНР у чыкагскім Беларускім Рэлігійна-Культуральным Цэнтры (3107 W. Fullerton). Перад гэтым у храме Хрыста Збаўцы прагучаў малебен за беларускі народ і Беларусь. Сьвяткаваньне, арганізаванае Беларускім Каардынацыйным Камітэтам у Чыкага, пачалося праслухоўваньнем Амерыканскага гімну і выкананьнем беларускага гімну "Магутны Божа". Уступнае слова, зьвяртаючыся да прысутных па-ангельску і па-беларуску, сказаў Ванкарэм Нікіфаровіч. Спадар Нікадэм Жызьнеўскі пазнаёміў аўдыторыю з ганаровым госьцем – Юрыем Хашчавацкім, вядомым беларускім кінарэжысёрам-дакументалістам. Ён адказаў на шматлікія пытаньні, падрабязна расказаў пра тое, як працаваў над стварэньнем фільма "Звычайны прэзідэнт", што сёньня забаронены на Беларусі. Гаворка ішла і пра апошнія грамадзкія акцыі беларускай апазіцыі, пра "Маршы свабоды" 17 кастрычніка мінулага году і 15 сакавіка сёлета, пра паліцэйскія акцыі цяперашніх уладаў Беларусі па забароне сьвяткаваньня Дня 25 Сакавіка, пра сёньняшнія клопаты тых, хто змагаецца супраць рэжыму нелегітымнага Лукашэнкі, які называе сябе прэзыдэнтам рэспублікі. Юрый Хашчавацкі гаварыў і пра тое, як узьнікла задума правесьці ўжо сёлета новы Усебеларускі Кангрэс, які павінен сабраць усе дэмакратычныя сілы з усіх рэгіёнаў Беларусі і беларусаў замежжа. Старшынёй такога Кангрэсу даў згоду быць сусьветна вядомы беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў. Прысутныя падтрымалі ідэю скліканьня такога Кангрэсу, падкрэсліўшы неабходнасьць пераемнасьці і далейшага разьвіцьця ідэалаў Дня 25 Сакавіка, ідэалаў БНР у барацьбе за свабоду і дэмакратыю на Бацькаўшчыне.

На ўрачыстасьці было зачытана віншаваньне, якое прыслаў з нагоды Дня Незалежнасьці Беларусі губернатар штату Іліной Джордж Раян, а таксама сьвяточны Зварот, адрасаваны ўсім беларусам у сьвеце, падпісаны Старшынёй Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонкай Сурвіллай.



На здымку: падчас сьвяткаваньня ў Беларускім Рэлігійна-Культуральным Цэнтры ў Чыкага.
Фота: Н. Жызьнеўскага

***

Вялікая ўрачыстасьць, прысьвечаная Дню Волі – нацыянальнаму сьвяту ўсіх беларусаў сьвету, адбылася 26 сакавіка ў Беларускай праваслаўнай царкве Сьвятога Юр'я. Малебен за беларускі народ адправіў пратаірэй айцец Дзмітрый Бажко. Адкрыў урачыстасьць сп. Міхась Каленік, старшыня Беларуска-Амерыканскай Нацыянальнай Рады ў Чыкага. Быў выкананы Амерыканскі Гімн і прасьпяваны беларускі гімн "Магутны Божа". Хвілінаю цішыні ўшанавалі прысутныя памяць герояў, што загінулі за вольную і незалежную Беларусь. Сакратарка царкоўнай управы Алена Герашчанка зачытала шматлікія віншаваньні са сьвятам 25 Сакавіка, якія прыйшлі ад розных асобаў, афіцыйных і грамадскіх установаў і арганізацыяў.

Удзельнікі ўрачыстасьці цёпла віталі Пэт



Сьвяткаваньне дня незалежнасьці Беларусі ў царкве сьв. Юр'я ў Чыкага. Другі зьлева: Ю. Хашчавацкі.
Фота Л. Асеньняга

Міхальскі, асыстэнта губернатара штата Іліной у этнічных справах. Ад імя губернатара штату Джорджа Раяна яна сардэчна павіншавала ўсіх

прысутных з нацыянальным беларускім сьвятам. Са шчырымі словамі вітаньня выступіла Карэн Эджэрэр, прадстаўнік дзяржаўнай арганізацы Heartland International, якая апошнім часам актыўна запрашае прадстаўнікоў моладзі Рэспублікі Беларусь для заняткаў у розных адукацыйных праграмах.

Рэфэрат "Сучаснае значэньне прыняцьця Радай БНР Трэцьцяй Устаўной Граматы 25 сакавіка 1918 года" прачытаў Ванкарэм Нікіфаровіч. Ён прадставіў аўдыторыі госьця – Юрыя Хашчавацкага, вядомага беларускага кінарэжысёра-дакумэнталіста, аўтара забароненай сёньня ў Беларусі стужкі "Звычайны прэзідэнт". Было зададзена шмат пытаньняў, на якія Юрый Хашчавацкі падрабязна адказаў. Прысутныя падтрымалі ідэю склікання сёлета ў Менску новага Усебеларускага Кангрэсу, каб на ўвесь сьвет абвясьціць непрыяцце цяперашняга рэжыму ў Беларусі і выпрацаваць новыя прынцыпы беларускай дзяржаўнасьці, заснаваныя на ідэалах БНР.

На сьвяткаваньні Дня 25 Сакавіка адбыўся канцэрт дзіцячага музычна-танцавальнага гуртка "Лянок", што зарганізаваны пры парафіі Сьв. Юр'я.

В. Н.






## МАРШ СВАБОДЫ Ў ДЗЕНЬ КАНСТЫТУЦЫІ

**Нягледзячы на ўсе запужваньні ўладаў і дрэннае надвор'е, 15 сакавіка ў Дзень Канстытуцыі на акцыю аб'яднанай апазыцыі "Марш Свабоды-2" выйшла ад 25 да 40 тысячаў чалавек. Акцыя прайшла без эксцэсаў і ператварылася ў сапраўднае сьвята для людзей, якія наведалі яе.**

Нягледзячы на імкненьне ўладаў паказаць прайшоўшую акцыю ў непрыглядным сьвеце, гэта ў іх атрымалася слаба, бо інакш і быць не магло, надта ж унушальным атрымалася дзейства. Да аб'яўленага пачатку акцыі было яшчэ паў гадзіны а на сталічным пляцы Якуба Коласа ўжо сабралася каля пяці тысячаў чалавек, што надзвычай шмат для такога часу. Стала зразумела, што шматлікія скэптыкі, якія прадказвалі "Маршу Свабоды-2" значна меньшы посьпех, жорстка памыліліся.

Напярэдадні ў школах і інстытутах навучэнцаў запуджвалі, ладзілі на час Марша бясплатныя дыскатэкі са зьяўленнем "пад росьпіс" і проста прапаноўвалі "ня шастаць па дажджу, а пасядзець вечар дома". Аляксандр Лукашэнка больш за паўгадзіны свайго "сьпіча" ў палаце прадстаўнікоў прысьвяціў тэме Марша, пагражаў у жаху: "Учыніце беспарадкі - сатру ў парашок!" Нічога іншага ён ня мог - занадта пільная ўвага да гэтай акцыі праявіла міжнародная супольнасьць. Напярэдадні акцыі заявы зрабілі Дзяржаўны дэпартамэнт ЗША, Белы дом, "Міжнародная амністыя". Усе яны папярэдзілі рэжым пра адказнасьць за магчымыя сілавя меры супраць дэманстрацыяў "Вясны-2000"

Падчас збору дэманстрантаў на пляцы было раздадзена дзесяць тысячаў капяваных стадаляравых купюр з эмблемай "Марша" з аднаго боку і надпісам "Удзельніку Марша Свабоды-2" з другога. У касах гэтыя грошы раздаваў "асабіста" Лукашэнка. Гэтак арганізатары адрэагавалі на стаўшы ўжо звычайным паклёп Беларускага тэлебачаньня пра тое, што быццам удзельнікам апазыцыйных мітынгаў раздаюць валюту. На ўсіх жадаючых грошай не хапіла... Як заўсёды адзначылася газэта "Навінкі", якая прадставіла публіцы чалавека падобнага на Лукашэнку, які бег па пляцы Якуба Коласа абуты ў... лыжы. Праз хвіліну санітары з тых жа "Навінак" павязалі "Сашу".

У чвэрць сёмага калёна ўдзельнікаў колькасцю прыкладна ўжо дваццаць тысячаў чалавек рушыла на прашпэкт Ф.Скарыны. Людзей было так шмат, што дружына арганізатараў мерапрыемства ня здолела ўзяць калёну, як плянавалася, ў простакутнік з мэтаю захаваньня парадку. Аб колькасьці дэманстрантаў можна меркаваць хаця б па тым факце, што калі першы шэраг ужо набліжаўся да пляцоўкі перад Акадэміяй Навук, "хвост" яшчэ не пакінуў мейсца збору.

У гэты час журналісты з БТ ставілі "спэктакаль" на адным з прыпынкаў грамадзкага транспарту. З БТ-шнага "Рафіка" вылезлі ня толькі самі "чэсныя" журналісты, але і героі іхняга рэпартажа. Праз хвіліну яны ўжо распавядалі пра тое, як жа ім дрэнна, калі ў горадзе дэманстрацыя, "не прайсці табе - не праехаць". Пасля здымак гэтак жа дружна група пакінула мэрапрыемства, паехаўшы перадаваць чарговую хлусьню пра паўтары тысячы экстрэмістаў.

Адзіны эпізод, які адбыўся падчас акцыі, здарыўся з прадстаўнікамі расейскага тэлеканала НТБ. Студэнт геаграфічнага факультэта БДУ Сяргей Казлоў ударыў карэспандэнта НТБ Аляксандра Калпакова. Казлоў быў затрыманы і зьмешчаны ў Савецкі РАУС Менска. У аднасінах да студэнта ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле "хуліганства". Нападаўца матываваў свой ўчынак тым, што ня згодны з інфармацыйнай палітыкай тэлеканала НТБ па асьвячэньні канфлікта ў Чачні. У міліцыі прыйшлі да высновы, што Казлоў у момант зьдзяйсьненьня злачынства знаходзіўся ў стане алкагалёвага ап'яненьня. Гэты факт падзьцьверджаны экспэртызай.

Напярэдадні Маршу, як вядома, на яго былі запрашаны шматлікія міжнародныя назіральнікі. Аднак улады ўсімі шляхамі перашкаджалі іх прыезду -- так дэлегацыя парлямэнтараў і прадстаўнікоў грамадзкіх арганізацыяў Швэцыі не атрымалі беларускія візы.

На "Маршы Свабоды" прысутнічалі прадстаўнік праваабарончай арганізацыі Amnesty International Мэцьці Прынгл, а таксама прадстаўнікі чэскае праваабарончай арганізацыі "People in Need" (Людзі ў бядзе). Акрамя шматлікіх міжнародных назіральнікаў, увесь шлях "Марша Свабоды-2" прайшлі амбасадар ЗША Даніэл Спекхард і кіраўнік кансультатыўна наглядальнай групы АБСЕ Ханс-Георг Вік.

Акцыя асьвятлялася буйнейшымі сусьветнымі СМІ – тэлевізійнымі кампаніямі, агенствамі й друкаванымі выданьнямі. На іх тле мякка кажучы дзіўна выглядаў расейскі тэлеканал ГРТ, які ўвогуле ігнараваў Марш.

Шумавы эфэкт, які ствараўся натоўпам на вузенькай (у параўнаньні з прашпэктам) вуліцы Сурганава - яўна перакрываў леташні – кастрычніцкі. У гэты момант калёна дасягнула сваёй найбольшай колькасьці - каля сарака тысячаў чалавек. Яшчэ праз паўгадзіны дэманстранты мінаваўшы вуліцу Багдановіча, падыйшлі да асфальтаванай пляцоўкі ДС Кульман.

Нягледзячы на сакавіцкі холад людзі мужна дачакаліся пачатку мітынга, які дзякуючы кемлівасьці арганізатараў быў зусім ня доўгі. Прадстаўнікі ад кожнай з партыяў выступілі перад натоўпам, які амаль непарыўна выгукваў "Жыве Беларусь!" і палове дзявятай саступілі мейсца музыкантам з рок-гурту NRM. Тут пэўная частка сабраўшыхся, у асноўным людзі сярэдняга ўзросту, пачалі разыходзіцца, утварыўшы доўгі, зьнікаючы недзе ў цемры ланцужок. А моладзь "адцягвалася" спачатку пад NRM-аўцаў, а пасьля пад рок-караля 1998-га года гурт "Нэйра Дзюбель", які сваім "Belarus - uber alles" вымусіў скакаць нават самых сьціплых.

Трэба адзначыць, што ў натоўпе была раздадзеная вельмі вялікая колькасьць запрашэньняў на акцыю апазыцыі "Дзень Волі", якую мяркуецца правесьці 25 сакавіка. Там таксама плянуецца і шэсьце і канцэрт. Да таго ж ёсьць спадзяваньне, што да 25-га пацяплее.

Увогуле уразіла тая атмасфэра сьвята, якая вітала ў натоўпе. Адсутнасьць у ім "ціхароў" і міліцыянтаў разьняволіла людзей, якія перасталі адчуваць за сабой безперапыннага сачэньня. Між тым адсутнасьць міліцыі, якая праўда хавалася ў падворках у цэнтры горада, ніяк не паўплывала на пагаршэньне грамадзкага парадку.

Па дадзеных ГУУС Менска, падчас масавага шэсьця апазыцыі, якое адбылося ў сераду больш нікога затрымана не было.

## КІРАЎНІЦТВА АБСЭ ПРЫНЯЛО ЗАЯВУ Ў СУВЯЗІ З ПАДЗЕЯМІ Ў МЕНСКУ 25 САКАВІКА

У ёй у прыватнасьці гаворыцца, што прымяненьне сілы з боку ўладаў не было абгрунтаваным. Арышт мірных жыхароў, ўдзельнікаў акцыі і журналістаў сьведчыць пра парушэньне права на свабоду сходаў і інфармацыі. Затрыманьне супрацоўніка менскай Кансультатыўна-наглядальнай групы АБСЭ з'яўляецца парушэньнем міжнародных канвэнцыяў, якія падпісала Беларусь. Аб'яўлены ўладамі дыялёг ня можа праводзіцца ў атмасфэры рэпрэсій, лічаць у АБСЭ.

## У КАМІСІІ ПА МІЖНАРОДНЫХ СПРАВАХ НІЖНЯЙ ПАЛАТЫ ЧЭСКАГА ПАРЛЯМЭНТА РАСПАЧАТАЯ ПАДРЫХТОЎКА ДА СЛУХАНЬНЯЎ ПА "БЕЛАРУСКІМ ПЫТАНЬНІ"

Пра гэта заявіў кіраўнік камісіі Любамір Заралэк на сустрэчы з прэзыдэнтам Беларускага ПЕН-цэнтру Васілём Быкавым і старшынёй Рады БНР Івонкай Сурвіллай, якія знаходзяцца ў Празе з нагоды сьвяткаваньня беларускай эміграцыяй 82-х угодкаў абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Нагадаем, што 16 сакавіка падобныя слуханьні па "беларускім пытаньні" адбыліся ў камітэце міжародных стасункаў верхняй палаты чэскага парляманта.

## *Дзяржаўны Дэпартамэнт ЗША прыняў заяву з нагоды падзеяў 25 сакавіка ў Беларусі.*

У заяве, якую зачытаў прадстаўнік прэсавай службы Дзяржздэпартамэнту Філі Рыкер, гаворыцца:

"ЗША асуджаюць брутальнае й беспадстаўнае здушэньне беларускімі ўладамі мірнага шэсьця ў Менску 25 сакавіка, удзельнікі якога зьбіраліся адзначыць 82-я ўгодкі стварэньня БНР. Улады выкарысталі ў цэнтры Менску міліцыю з сабакамі ды спэцпадразьдзяленьні, узброеныя бронетранпартэрамі. У выніку былі арыштаваныя ад 200 да 500 беларускіх грамадзянаў.

Паведамляецца, што многія зь іх былі зьбітыя. У ліку пацярпелых былі намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі Анатоль Лябедзька, польскі парлямэнтар Марыюш Каміньскі і 35 беларускіх, расейскіх і польскіх журналістаў. Улады таксама затрымалі амэрыканскага грамадзяніна, акрэдытаванага пры Кансультацыйна-маніторынгавай групе АБСЭ, што ёсьць яўным парушэньнем ягонага дыпламытычнага статусу.

Здушэньне гэтай дэманстрацыі лукашэнкаўскім рэжымам выразна паказвае адсутнасьць у яго зацікаўленьня ў дыялёгу. Мы заклікаем улады ў Менску неадкладна выпусьціць усіх арыштаваных і забясьпечыць свабоду слова і сходаў".

Акрамя таго, Філіп Рыкер сказаў:

Яшчэ 25 сакавіка мы выказалі амбасадару Беларусі ў ЗША пратэст у сувязі з разгонам і паведамілі аб рашэньні скасаваць рэжым найбольшага спрыяньня ў гандлі для Беларусі ў сувязі з парушэньнем правоў працоўных. Гэтае рашэньне будзе абвешчанае пазьней".

**Паважаныя чытачы "Беларускага Дайджэсту"! Калі ласка, не забывайце пераслаць грашовую ахвяру на выдавецкі фонд газэты... Прыяндноўвайце новых чытачоў і прыхільнікаў!**

Міхась БЕЛЯМУК (ЗША)

# СЬВ. ПАМЯЦІ МІКОЛЫ ЕРМАЛОВІЧА

Раніцой 4-га сакавіка 2000 г. памёр Мікола Ермаловіч. Калі мы з жонкаю атрымалі гэтую сумную вестку — зашчымела сэрца, бо адыйшоў ад нас выдатны беларускі гісторык, пісьменьнік, патрыёт, шчыры і сяброўскі чалавек.

Нарадзіўся Мікола Ермаловіч 29-га красавіка 1921 г. у вёсцы Малыя навасёлкі, што недалёка ад Койданава. У 1937 г. ягонага бацьку Івана арыштоўваюць, а Міколу як сына ворага народу выключаюць са школы, з 10-ай клясы. Цяжкасьці, якія маладому хлапцу прыйшлося спазнаць і перажыць да вайны і падчас вайны, загартавалі ягоны характар, сфармавалі ягоны сьветапагляд. У 1948 г. ён пасьпяхова заканчвае Менскі педінстытут і ў 1952 г. паступае ў аспірантуру. Калі М. Ермаловіч запрапанаваў тэму сваёй дысэртацыі: "Беларуская літаратура XIX ст.", то атрымаў адказ: "Такая тэма неактуальная, пішыце аб прыназоўніках". М. Ермаловіч адмовіўся ад гэтае прапановы і пакідае аспірантуру. Ён выкладае ў Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце і ў інстытуце ўдасканаленьня настаўнікаў, але ў 1958 г. яго звальняюць з працы.

Жывучы ў Маладзечна, Мікола Ермаловіч больш за 25 гадоў штодзённа, спачатку цягнікам, а пазьней электрычкай, езьдзіць у Менск у Беларускую Дзяржаўную бібліятэку, самастойна дасьледуючы беларускую старажытную гісторыю. Ён праседжвае ад 10-й гадзіны раніцы да 6-й вечара, вывучаючы летапісі, кронікі, гістарычныя манаграфіі і артыкулы, прысьвечаныя Беларусі. Жонка Тамара ўспамінае: "Усе мы, пастаянныя наведвальнікі "малой залі" беларускага аддзелу "Ленінкі" добра ведалі гэтага апантанага беларускай гісторыяй чалавека. Ведалі таксама, што ён амаль страціў зрок і таму клапаціліся, каб мейсца ля вакна было вольнае для Міколы".

А як-жа клапаціліся пра Міколу Ермаловіча беларускія афіцыйныя гісторыкі, як аднесьліся яны да ягоных дасьледваньняў? У адным з лістоў М. Ермаловіч паскардзіўся: "Найбольшы мой вораг — З. Капыскі, гэта ён патрабаваў, каб забаранілі мяне друкаваць. У 1974 г. ён разам з адзінакроўцам Карпачовым падсунулі дырэктару інстытуту гісторыі АН БССР І. Ігнаценку матэрыял, у якім я абвінавачваўся ў справе аднаведць адкінутую тэорыю аб беларускай дзяржаўнасьці ў Вялікім княстве Літоўскім на падставе артыкулаў: "Дзе была летапісная Літва" і "З гісторыі Навагрудка".

У іншым лісьце Мікола Ермаловіч піша: "Рускія гісторыкі як даўнейшыя, так і сучасныя найбольш поўна і праўдзіва распрацоўвалі гісторыю Беларусі. Шкада толькі, што многія іх дасьледваньні засталіся забытымі, а іх высновы не бяруцца пад увагу".

У аным з лістоў на канвэрце я напісаў "Праф. Міколу Ермаловічу", бо ведаў, што ён закончыў педінстытут і быў аспірантам. У наступным лісьце атрымаў ад М. Ермаловіча паясьненьне да слова "прафэсар": "Пасьля бібліятэкі вяртаюся дамоў і іду працаваць у таварыства сьляпых, дзе таксама праседжваю 5 гадзінаў за клейкаю каробак. Маё афіцыйнае званьне — апрацоўшчык плястыковых вырабаў, як бачыце, мне далёка да прафэсара. Бяз гэтага пражыць немагчыма. Дзеці ў мяне інваліды, трэба на іх зарабляць, і ўсё-ж, нягледзячы на вялікія цяжкасьці, я не здаюся і, як кажа Васпан, выяўляю стойкасьць натуры. Калі вочы канчаткова не адмоўляць, то сёе-тое зраблю. Праўда, што разблытаць нашую заблытаную гісторыю вельмі цяжка".

Дыскутуючы пытаньне ўтварэньня Вялікага княства Літоўскага, Мікола Ермаловіч сьцьвярджаў: "Дасьледчык ня можа дзяліць фактаў на тыя, якія яму падабаюцца і на тыя, якія яму не падабаюцца. Усе факты ён павінен дасьледаваць і ніводнага не адкідаць ці замоўчваць. Калі я вывучаў усе матарыялы, то ўбачыў, што ранейшыя дасьледчыкі шмат гаварылі аб так званым літоўскім заваяваньні Беларусі, але не паказвалі самога факту заваёвы, ніколі не гаварылі, калі і як гэта адбылося. Адны гаварылі, што ў 30-я гады, другія, што ў 40 гады XIII ст... Другое, чаго я ня мог уцяміць, дык гэта тое, чаму менавіта Літва перш за ўсё падначаліла Наваградак. Я не лічу сваіх вывадаў бясспрэчнымі, бо гэта прыніжала-б мой гонар дасьледчыка і таму гатовы выслухаць кожнага, хто грунтуючыся на фактах, будзе абвяргаць мяне. Ад гэтага толькі выйграе навука".

Учытваючыся ў ягоныя артыкулы і манаграфіі, мы заўважаем, што Мікола Ермаловіч сапраўды трымаўся сваіх слоў. Ён карпатліва і ўнікліва аналізаваў факты нашай сівой мінуўшчыны. Мы можам, прыкладам, не пагаджацца з некаторымі ягонымі высновамі, назіраньнямі і здагадкамі, але бяспрэчна адно: ён дасьледваў старажытную гісторыю Беларусі сумленна. Ён стаў адным з першых беларускіх гісторыкаў, які адкінуў старыя догмы і даў магчымасьць маладым гісторыкам разьвіваць і ўдакладняць ягоныя тэзы. Самейная



трагэдыя, сьлепата і забарона друкаваць ягоныя працы не спынілі імпульс Міколы Ермаловіча разблытаць заблытаную гісторыю Беларусі. Гэта павінна паслужыць прыкладам іншым.

Я закрануў пытаньне ў адным з маіх лістоў, якое-ж хрысьціянскае імя меў вялікі князь Альгерд, бо ў С. Салаўёва гаворыцца, што Альгерд меў імя Аляксандр. Мікола Ермаловіч адказаў: "Я наагул яго /С. Салаўёва/ вельмі паважаю. Для мяне ён прыклад вельмі аўтарытэтнага гісторыка, але чаму ён назваў Альгерда Александрам без спасылкі на крыніцу, не разумею. У мяне ёсьць зьвесткі, што насіў ён імя Андрэй. Так у надпісі на Евангеліі ХУ ст. Віленскае Прачысьценскае царквы гаварылася "Велики князъ Ондрэй Гедыминич во святой схиме Алексей"... У рукапісе, знойдзеным Нарбутам у Троіцкім манастыры бэрнардзінаў, успамінаецца пра старажытны звон, на якім быў зроблены напіс: "Сеъ азъ рабъ Божий Яков Ондреевич с матерою своею Уляною Александровною дали есмо колакол улить въ церковъ". З прыведзенай цытаты стала зразумелым, што Альгерд меў імя Андрэй, а ягоны сын Ягайла быў ахрышчаны і меў імя Якаў.

У верасьні 1989 г. у Міколы Ермаловіча памерла жонка Лідзія. Я выказаў яму свае спачуваньні. Адказваючы на мой ліст, ён пісаў: "Дзякую за спачуваньні ў маім вялікім горы. Гэта такі ўдар лёсу па мне, што наўрад ці я ачуняю ад яго. Сын мой бездапаможны інвалід. У дачкі таксама жыцьцё нешчасьлівa склалася, жыве адзінокай пры мне. Сам я ўжо сьляпы". Тут варта адзначыць, што М. Ермаловіч меў пішучую машынку, на якой жонка Лідзія друкавала ягоныя працы, а лісты ён пісаў ад рукі, бо "лісты рэч чыста асабістая, яны застаюцца без перадруку". Ліставаньне нашае пачалося ў 1971 г. Калі я неспадзявана атрымаў ад Міколы Ермаловіча Паштоўку. Ён вітаў мяне са сьвятам 1-га мая, але я зразумеў, што гэтак ён хоча навязаць лучнасьць. Пазьней высьветлілася, што мой адрас ён атрымаў ад доктара навук Г. Штыхава. Напісаў мне Мікола 64 лісты. Зьмест гэтых лістоў часткова быў апублікаваны ў часопісе "Полацак" за 1991 г.

У адным з лістоў запрапанаваў яму прыехаць у ЗША, каб зрабіць апэрацыю. Ён падзякаваў і паясьніў, што яго аглядалі спэцыялісты з інстытуту Фёдарава і сказалі: "Можна зрабіць апэрацыю, але без гарантыі посьпеху. Тлумачылі гэта тым, што ў мяне галоўнае не катаракта, а высокая ступень блізарукасьці, і там пасьля апэрацыі можа адбыцца адслаеньне сятчаткі, а гэты працэс неабарачальны, ён вядзе да сьлепаты. Дык вось гэтае-ж самае могуць сказаць мне ў ЗША". Мне прыйшлося пага- дзіцца з думкаю Міколы.

Калі ў 1989 г. нашае ліставаньне прыпынілася, я занепакоіўся. У адным з лістоў я пачаў прабачацца, бо думаў, што Мікола Ермаловіч за штосьці пакрыўдзіўся. 25-га верасьня атрымаў ад яго ліст: "Сябра дрэнна думае, што я за нешта пакрыўдзіўся. Нічога гэтага не было. А было тое, што у кампэтэнтныя органы на мяне падалі данос нашыя "вучоныя" і выклікалі на допыт. Усё дапытваліся, якую я пішу гісторыю, што я хачу ў ёй даказаць "извечную самостоятельность Белоруссии?", і я вымушаны быў спыніць перапіску... Мая "Старажытная Беларусь" надрукавана ў "Маладосьці" і мае вялізарны посьпех. У наступным годзе выйдзе асобай кніжкай, якую вышлю". Другая ягоная кніга "Па сьлядох аднаго міфа", якая спачатку хадзіла па руках у рукапісе, бо друк яе быў забаронены, пабачыла сьвет у 1989 г. і была імгненна раскуплена. Праз два гады ў 1991 г. яна выйшла паўторным выданьнем.

У 1990 г. Мікола Ермаловіч удастоіўся Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Кастуся Каліноўскага. У лістах адчувалася, што ягоны настрой стаў больш бадзёрым. Ён пісаў: "Як раней ад мяне адбіваліся, так цяпер за мной ходзяць розныя рэдакцыі, каб хоцць пра што-небудзь напісаў для іх. Я з радасьцю ўсё рабіў-бы, але зрок прымушае многім адмаўляць".

Утым-жа 1990 г. Мікола Ермаловіч інфармаваў: "Пішу гэты ліст пад уражаньнем ад купальскага сьвята, якое адбылося гэтай ноччу. Як радасна бачыць, што кожны год усё больш і больш запальваецца купальскіх агнёў. Наша Маладзечанская зямля сёлета палала агнямі, і так павінна быць на зямлі, якая падаравала сьвету Янку Купалу".

Як сумна стала, што адданы сын Беларусі, сьветлай памяці Мікола Ермаловіч, больш не пабачыць палаючых купальскіх агнёў. Ён адыйшоў у вечнасьць...

## *Беларусь разьвіталася з Міколам Ермаловічам.*

Супольнымі сьпевамі нефармальнага беларускага гімну **"Магутны Божа"** разьвіталіся ў Менску з Міколам Ермаловічам. На жалобную імпрэзу ў Дом літаратара прыйшлі толькі тыя, каго сюды прывяла духоўная еднасьць са стваральнікам катэхізму нацыянальнае сьведамасьці беларусаў, як вызначыў яго ў сваім кароткім выступе прадстаўнік Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" В. Герасімаў.

Прыйшлі тыя, каму гэты амаль невідушчы чалавек раскрыў вочы на сапраўдную гісторыю Беларусі. Якую, як галоўнаму рэдактару часопіса "Маладосьць" Генрыху Далідовічу, ён паказваў, так бы мовіць, у натуры, на падмурках манастыра, які ў XIII стагодзьдзі заклаў у мястэчку Лаўрышава князь Войшалк, запачаткаваўшы Вялікае Княства Літоўскае.

"Вось адкуль пачыналася Літва – сярэднявечная дзяржава беларусаў, сказаў тады мне Ермаловіч і блаславіў на напісаньне гістарычнага раману пра ВКЛ", – сказаў спадар Далідовіч. Напісаны твор уручыць сваймy духоўнаму настаўніку Генрых Далідовіч не пасьпеў.

Прыйшлі тыя, хто, як сябра клюбу "Спадчына" Аўген Калубовіч, лічыць Міколу Ермаловіча гонарам Айчыны. Менавіта так называецца ордэн клюбу, якім быў ганараваны Ермаловіч.

Тыя разьвіталіся з Міколам Ермаловічам, хто, як нацыянальны палітычны дзеяч Лявон Баршчэўскі, лічыць: "Гэта адна з тых стратаў, пра якія абсалютна можна сказаць, што немагчыма гэтую страту аднавіць".

Прыйшлі тыя, хто сам сябе называе прадстаўнікамі абылганага пакаленьня, як маладэчанская пасьлядоўніца Ермаловіча Марыя Сенюць, і якія цяпер ведаюць: "Што значыць Беларусь. І праўду нідзе на схаваеш. І ад Бога не адлучыш".

Прыйшлі тыя, у кім Мікола Ермаловіч выпадковаю ўвагаю запаліў любоў да роднае мовы. Як гэтая немаладая кабета: "Ён так хораша са мной на беларускай мове гаварыў... І з таго часу я беларускую мову люблю і размаўляю толькі на беларускай мове".

І тыя былі тут, для каго кнігі Міколы Ермаловіча, як для пісьменьніцы Вольгі Іпатавай, будуць вечным неацэнным скарбам: "Сёньня ў зямлю навекі пойдзе цела гэтага па-сапраўднаму дарагога, роднага нам усім чалавека. Але душа яго застаецца з намі. Як навекі жыве і будзе жыць у народзе яго "Старажытная Беларусь" і ўсе кнігі, якія ён напісаў і не пасьпеў яшчэ апублікаваць. Яго кнігі, яго душа, яго сэрца, яго самаахвярнае служэньне нашай зямлі".

Прыйшлі ўсе тыя, для якіх Мікола Ермаловіч, па вызначэньні паэта Яўгена Гучка, – народны гісторык.

І тыя былі сёньня ля труны спадара Ермаловіча, для каго ён, як для кіраўніка мастацкае суполкі "Пагоня" Міколы Купавы: "Вы – наш інстытут. Гісторыі. У адной асобе. І я глыбока ўпэўнены, што Беларусь, каторая стане неўзабаве сапраўды незалежнай, вольнай, эўрапейскай дзяржавай, на сваіх скрыжалях напіша залатымі літарамі Ваша імя".

Афіцыйны ж Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук як не прызнаваў, так і не прызнаў заслугаў Міколы Ермаловіча. Толькі некалькі ягоных супрацоўнікаў прыйшлі на разьвітаньне як прыватныя асобы. Дзяржаўныя ўлады, калі не лічыць супрацоўнікаў ворганаў дзяржаўнае бясьпекі, нават гэткім чынам прадстаўлены не былі.

**Валянціна Аксак, Менск**

*Уладзімір Содаль*

"Наша Слова"

# БЕЛАРУСКІЯ ДУМКІ

## КАМУ ЗАМІНАЕ НАША МОВА?

Гавораць, што мова наша паміpae натуральна… Але гэта не зусім так. Яе забіваюць, яе душаць. Калі б наша мова жыла натуральна, яна б ніколі-ніколі б не загінула, бо з прыроды яна вечная.

Часам, нас суцяшаюць, кажуць такое: "Чаго шуміце", чаго турбуецеся? Мова ваша не загіне, жыве і будзе жыць!"

Вядома ж, будзе жыць, калі яе не будуць забіваць, душыць. А гэта якраз робіцца не адно стагоддзе. З гэтай нагоды падумалася і такое… Гэта бясспрэчна, што нашу мову ганьбяць, ганьбуюць, і душаць, прыніжаюць, забіваюць, ігнаруюць. Але хто і чаму? І навошта? Каму замінае наша мова? Няўжо славянству? Дык, здаецца, наша славянства спагаднае да беларускасці. То якая ж сіла кіруе тымі, хто з гэткай лютай нянавісцю і пагардай нападае на беларускасць? Цяжка адказаць. Але дакладна ведаю: гэта дзікунства, варварства. Гэта духоўны разбой. Але адкуль яны у ціхамірнага славяніна? Можа гэты духоўны разбой перадаўся нашым суграмадзянам і суседзям праз змушанае паняволенае супольніцтва з азіятамі з часоў іхняга нашэсця? Гэта ж яны хацелі вынішчыць сваімі паходамі наша славянства, ды не ўдалося. Не ўдалося вайсковымі набегамі, дык гэтае руйнаванне працягваецца іхнім азіяцкім духам, які падаўся праз сумеснае супольніцтва. Толькі гэтак можна патлумачыць гэтую няўтомную працу выбіць з славянскага ланцужка беларускае звяно.

Кажуць, мова забываецца, калі ёй не карыстаюцца. Я праз усё сваё жыццё, за выняткам 1956-1958 гадоў, калі жыў у далёкім Мурманску, паслугуюся толькі сваёй роднай мовай: на ёй пішу, чытаю, разважаю, сню сны. На расейскай я адно толькі чытаю. А праз ўсё жыццё толькі адно ў роднай мове жыву: хвіліна ад хвіліны, дзень пры дні: праз усе сае шэсцьдзесят гадоў. Тым не менш, расейская мова з мяне не выветрылася. Калі трэба, я магу і напісаць што-кольвек па-расейску, пагаманіць з расіянамі-расейцамі ці з кім іншым, хто захоча з мною на гэтай мове загаварыць. Дык як жа можна забыць тое, што маеш? Як можна верыць тым, хто такое кажа?! Калі б гэта так усё лёгка і проста было, дык чала-веціва б забыла ўсю практыку ўсіх папярэдніх пакаленняў і ўсё б пачынала з нуля.

Беларуская мова! Родная мова!.. Чаму для адных ты бальзам жывых крыніц, радасць і ўцеха, натхненне і ўпава? Іншых жа чамусьці, пры згадцы пра цябе, ліхаманка калоціць, як ад якой пачвары. Чаму так? Хто гэта зрабіў? Мова ж, словы ні ў чым невінаваты.

Вінаватыя ва ўсім, безумоўна, людзі, іх папсутная псіхалогія. Нехта ж гэтых людзей наладзіў на такую непрыязнь. Але ці можна зрабіць так, каб беларуская мова стала для ўсіх бальзамам жывых крыніц? Безумоўна! Як? Праз адпаведнае выхаванне. Што гэта дасць? Мова аб'ядная нас у адно грамадства. Мы будзем лепш адзін аднаго разумець. Зараз жа мы ўсё раз'яднаныя. Мовай таксама. І гэта вельмі шкодзіць нашай грамадзе, нашай культуры, яе росквіту. Нічога новага тут не сказана. Але пакуль уся наша грамада не зразумее гэтага, трэба нагадваць і вядомае. І неадназразова. Мову трэба любіць, як сваё дзіця, як сваіх бацькоў, як сонца, як прыроду. Любім жа мы сваё дзіцё, якое яно б не было, якое б яно не ўдалося: прыгожае ці не вельмі, хворае ці здаровае. Бо яно наша! Тое ж і пра мову. Любіце яе, шануйце яе, пакутуйце за яе, якая б яна не была, бо яна наша! Сваё яно заўсёды сваё. Хто свайго не мае, той вечна жабруе. То ці ж нам вечна жабракамі быць, маючы сваё?! Любіце мову, як сваю хатку, як свой кут!

Самі ведаеце, што лепей свая хатка, як папіхайства. Лепей быць гаспадаром, чым кватарантам! То якія яшчэ трэба довады, што ўсё сваё, якое б яно не было, лепшае за чужое. А калі ў нас што трохі не так, то хіба мы не маем рук ды галоў, каб зрабіць на лепшае? Вядома ж ёсць!

І Спадчыну багатую маем… То кіньма вачыма паглядаць на суседскае ды зіхаць, што ў іх штось лепшае, як у нас! Закасайма рукавы ды працуйма так, каб сваё і сабе спадабалася, і людзі заглядзеліся. Што для гэтага трэба? А няшмат. Трохі гонару, трохі душы… І ўсё тое, што маем, што набылі за вякі. І ўсё ў нас зазіхаціць: і мова, і мастацтва, гарады і вёскі, і мы самі. То ўстрапянемся ж, беларусы! І нас запаважаюць ва ўсім свеце. І суседзі таксама – блізкія і больш далёкія!

Даўней, ды і зараз на Беларусі шмат гаворыцца пра іх славянскую еднасць, пра збліжэнне славянскіх народаў – і найперш пра збліжэнне беларускага, расейскага і ўкраінскага. Што ж, ідэя зразумелая, прыймальная. Але вось, як хто гэта ўяўляе і разумее гэтае збліжэнне, - тут пакуль што пануе погляд адзін: ва ўсім гэтым збліжэнні павінна запанаваць расейская мова, расейскі менталітэт. Вось гэта і будзе збліжэнне. А што будзе з беларускай і ўкраінскай моваю, з беларускаю культураю, гісторыяй, песьняю? – На гэта адказу няма. Але ён напрошваецца сам. Усё гэта павінна сысці, знікнуць. Але дзеля чаго, навошта? Што ў свеце з гэтым прыбавіцца, дадасца? Што лепей – тры браты ці адзін? Тры песьні – ці адна? Тры гатункі яблыкаў – ці адзін? Пытаньні ня новыя, але тым-сім забытыя ў сваім незразумелым, як бы сказаў, безразважным памкненні. Шляхоў для збліжэння шмат. Адны з іх грубыя, жорсткія, драпежныя, варварскія. Вось гэтым шляхам ужо цэлымі стагоддзямі імкнуцца "зблізіць" між сабою беларусаў, украінцаў і расейцаў. Ці больш дакладна – імкнуцца падагнаць, падпарадкаваць пад расейскі капыл беларусаў і ўкраінцаў. І што ж? Пэўны посьпех у гэтым ёсьць. Але якім коштам, якою цаною? І праз фізічнае вынішчэньне, і праз глум і зьдзек, душэўны надлом. І дзеля чаго ўсё гэта? І самае галоўнае – адбываецца зусім не збліжэньне, а растварэнне беларускай і ўкраінскай нацыяў у расейскай. Ну, але ці ёсць нейкі аптымальны, натуральны працэс збліжэння трох славянскіх народаў?

Безумоўна. Але чамусьці пра яго нідзе пакуль што не гаварылі, не разважалі.

Пра які іншы шлях збліжэння трох народаў я тут згадваю? А вось пра які... Беларусы, гэтак жа, як і ўкраінцы, ужо не адно дзесяцігоддзе вывучаюць, з ахвотай і паспяхова, і расейскую мову, і расейскую літаратуру.

А што расейцы? Можа яны таксама на нашу ўзаемнасць прагнуць, калі не вывучаць, то хоць пазнаёміцца з нашымі мовамі, з нашымі літаратурамі, з нашай гісторыяй. А чаму б і не пазнаёміць старшакласнікаў расейскіх школ з украінскай ды беларускай мовамі ды літаратурай? Нехта скажа – вось да чаго дадумаўся! Але не спяшайцеся з суровым прысудам – нашы народы могуць і павінны спазнаваць адзін аднаго… Хіба гэта не шлях да збліжэння?

Мы ж увесь час цвердзім: нашы мовы блізкія, родныя, з аднаго кораня. То хіба б расейцам зашкодзіла спазнаць праз нас свае агульныя карані? Ці яшчэ. Хіба б не шкодзіла дзеля гэтага нашага славянства заснаваць пакуль што такую газету, у якой бы матэрыялы з Беларусі друкаваліся па-беларуску, украінскія - па-украінску, расейскія – па-расейску. Хай бы праз такую газету і ішло збліжэнне нашых народаў. І гэта не ўтопія… Такой газеты яшчэ ніколі не выдавалася. Нават думка не падавалася такая.

А я вось падаю яе, бо я таксама прыхільнік нашага Збліжэння, нашага яднаньня, але не гвалтам, а праз пазнаньне адзін аднаго.

## А КАЛІ НААДВАРОТ…

Вам, мусіць, таксама не аднойчы даводзілася чуць, як украінцы, расейцы, ды і палякі, разважаючы пра нашу беларускую мову часта кажуць: " В вашем языке очень много русских слов". Па-украінску гэта гучыць так: "То о цэ ўсё наша!" Ну і моўчкі глытаем такія "адкрыцці", пагаджаемся з імі, забываючы пра адзін вельмі важны нюанс: на Беларусі славяншчына найстаражытнейшая і найчысцейшая. Гэта абгрунтавана вучонымі – славістамі ўсяго свету, дый мы і самі гэта адчуваем. То можа пара перахапіць ініцыятыву? Можа пара сказаць нашым суседзям: "Ой, людцы добрыя, колькі ў вашых мовах (украінскай, рускай, польскай) беларускіх слоў!" А тады пабачым, якая будзе рэакцыя, які будзе рэзананс!

І гэта не дзіцячая гульня. Гэта палітыка! Гэта і хвароба нашых суседзяў. Гэта і псіхалогія! Ну, а калі ўжо ўкраінцы, палякі ды рускія часам пакрыўдзяцца на беларусаў за іхнюю такую "дзёрзкасць", то мы можам і сціхнуць! Але, шаноўныя суседзі, - не кажыце і вы нам гэтага, бо яшчэ трэба добра паглядзець, хто ад каго пераняў нашы цяпер агульныя словы. Наша інтуіцыя нам падказвае, што шмат чаго прыйшло ў вашы мовы і з Белай Русі, асабліва ва ўкраінскую, але складзіся такія палітычныя варункі, што мы доўгі час не адважваліся абараніць свой гонар, пакорліва пагаджаліся з усім, што нам казалі пра нас нашы суседзі – добрае ці кепскае. Ну але, мусіць, настала пара выказаць і нязгоду з некаторымі думкамі сваіх суседзяў – і з афіцыйнымі, і з тымі, што існуюць на пабытовым узроўні, але маюць даўнюю пагалоску.

### ЗРАЗУМЕЛАЯ, БЛІЗКАЯ АЛЕ…

… Здаецца, усе і даўно прыйшлі да адной думкі, да аднае высновы – беларуская і расійская мовы вельмі блізкія, зразумелыя паходзяць з аднаго кораня. Беларусу і расейцу перакладчыкі непатрэбныя. Так гавораць даўно і я б хацеў пагадзіцца з гэтым, але чаму ж тады, як толькі прыязджае які госць з Расеі, усе беларусы пераходзяць на расейскую мову. З павагі да госця? Што ж, можна з гэтым пагадзіцца. Наш жэст ветлівасці можна зразумець. Але такі жэст ветлівасці мог быць і з боку расейскага візіцёра, які б мог, прыкладам сказаць так: "Ничиво, ничиво. Разговаривайте по-белорусски. Мне даже интересно". Але, на жаль пакуль нашы высокія госці ў такія моманты маўчаць. Не навучыліся пакуль выказ-ваць павагу да народа паводле іх слоў "издревле родного", з якім хочуць ладзіць, сябраваць. Але гаварыць дэмагагічна пра роўнасць і блізкасць вялікія мастакі. Якраз так было і пры сустрэчы з Ельцыным у Вярхоўнай Радзе Беларусі. Шаноўны госць таксама не мінуў сказаць пра роднасць, блізкасць нашых моў, што нам перакладчыкі не патрэбныя. Ну і вядома перакладчыкі не спатрэбіліся. У гонар госця з Расеі сесія перайшла на расейскую мову. Вось вам і мовы блізкія,ізразумелыя!

Не ведаю, як хто, але я адчуваю сябе ніякавата: рускі чалавек не разумее беларускай мовы не разумее мовы блізкага народа, не хоча слухаць беларускай мовы? Чаму ж украінцы з беларусамі гавораць па-украінску, а мы з імі па-беларуску і цалкам разумеемся. А вось, калі толькі зьявіцца расейскі брат адразу пачынаюцца згаданыя выбачэньні. Беларуская мова па духу сваім была і будзе гаспадыняй на Беларусі, якія б законы не прымалі. А ўсё іншае, што мецьму рабіцца на нашай зямлі не на беларускай мове, асабліва там, дзе паводле самой прыроды і сутнасці павінна гучаць беларуская мова, заўсёды будзе ўспрымацца як гвалт, ненатуральнасць, а ўсе яе носьбіты беларускага паходжання, а менавіта пра іх ідзе найперш наша гаворка, будуць успрымацца як крыўлякі, недавяркі, крывадушнікі, Богаадступнікі, здрайцы. І гэта не я кажу, не зусім я. Гэта кажа логіка жыцця, гэта такі ж спрадвечны закон прыроды. Я ж толькі яго адчуў, звёў у думку, таму не крыўдуйце на мяне, не пагражайце мне. Не прыдумлівайце мне ніякіх -ізмаў: крыўдуйце на саміх сябе. Дакарайце саміх сябе, наракайце самі на сябе. Я толькі сказаў праўду. А праўда такая: пакуль жыве на сьвеце хоць адзін беларус, ён вам і судзьдзя, і за ім апошняе слова. … Пра тое, як жыў і жыве беларускі народ заўсёды меркавалі і будуць меркаваць не па тых, хто адмаўляе, ігнаруе беларушчыну, грэбуе ёй, не прызнае, а па тых, хто яе стварае, рупіцца. Не сядзіць склаўшы рукі, а хто рухаў і рухае беларускую ідэю, развіваў і развівае яе. Усе ж, хто сваім дзённым ідэалам зрабіў кілбасу, мяса, гарэлку ды іншыя выгоды для жывата, гэтак і застануцца па-за нашай гісторыяй. Ад іх не застанецца ні пуху, ні духу, хоць ім і здаецца, што гэта яны творцы жыцця і яго пуп. Яны забываюцца пра тое, што ад чалавека застаецца дух, а не пух.

### ДЗЕ Ж МОЙ ПРЭЗІДЭНТ?

Ва ўсім свеце прэзідэнты ўсіх краінаў віншуюць сваіх грамадзянаў з Новым годам праз тэлевізійны экран. Гэта ўжо стала добрай традыцыяй.

Віншуюць свае народы на сваіх родных мовах. А як жа інакш! Іншае і ў голаў не прыходзіць! А як жа з гэтым у нас на Беларусі? А ў нас вядома як! Вось ужо каторы год з Новым Годам грамадзянаў Беларусі віншуе з тэлевізійнага экрана сп. А. Лукашэнка. Віншуе на варыянце расейскае мовы. А хто ж павіншуе з Новым Годам нас – тых, для каго родная мова – найдаражэйшы скарб? Такіх віншаванняў няма ўжо каторы год, быццам на свеце няма ні нас, ні нашае мовы. Але ж мы ёсць, і нам хочацца кожны дзень, кожную хвіліну жыць у сваёй роднай мове – і ў святы, і будні. У пераднавагоднюю і навагоднюю ноч таксама. Ці збудзецца гэта хоць калі? У нашай жа краіне дзве дзяржаўныя мовы. Чаму ж адна з іх – тая, з якой нас Бог пусьціў у сьвет, маўчыць у такія ўрачыстыя і непаўторныя моманты?



# Апошняя мяжа

Мікалай Халезін

**Ненадоўга сьціхшыя інтэграцыйныя намаганьні (потугі) Аляксандра Лукашэнкі крыху супакоілі прыхільнікаў беларускай незалежнасьці. Але гэта заціщша працягнецца толькі да сярэдзіны вясны, калі атрымае пасаду новы расійскі прэзыдэнт Уладзімір Пуцін. І тады Беларусь здолее адчуць на сабе кіпцюры і клювы расійскага двухгаловага драпежніка. Але...**

**Могілкі рэкордаў**

**На жаль краіны не могуць выбіраць сабе суседзяў. Калі б была мая воля, я б ніколі не змясціў Беларусь па суседству з Расіяй, а размясціў бы яе, на прыклад, паміж Канадай і ЗША. У гэтым выпадку нам ніхто не прапанаваў бы далучыцца да сябе на правах штата альбо акругі, -- кіраўніцтву нармальнай дзяржавы такога кшталту ідэя проста ня можа прыйсьці ў галаву. А нашаму ўсходняму суседу - можа. Бо наш сусед вялікі арыгінал. Расія ня проста краіна, прызначаная для паўнавартаснага пражываньня сваіх грамадзянаў, а краіна-рэкардсмен па цэлым шэрагу паказчыкаў.**

**Да прыкладу, Расія зьяўляецца сусветным рэкардсменам па колькасьці замоўленых забойстваў і колькасьці пенсіянераў, якім затрымліваюць выплату пенсіі. Але асноўны сусьветны рэкорд, які належыць Расіі і варты "Кнігі рэкордаў Гінэса" - гэта колькасьць формаў дзяржаўнай пабудовы. У нашага ўсходняга суседа маюцца ў наяўнасьці практычна ўсе віды грамадзка-палітычных строяў. У адной краіне мяжуюць чачэнскі рабаўладальніцкі строй і башкірскі аўтарытарызм, маскоўскі алігархічны капіталізм і калмыцкі феадалізм, краснадарскі сацыялізм і чукоцкая народная гаспадарка.**

**Да гэтага часу Аляксандар Лукашэнка так і не патлумачыў беларускаму народу якая з гэтых формаў дзяржаўнага ладу яго спакусіла. Калі звярнуцца да найноўшай беларускай гісторыі, дык узгадваецца толькі адзіная цытата Лукашэнкі, якая тычылася гэтага пытаньня. І прагучала яна ў інтэрв'ю журналісту нямецкай газеты "Хандэльсблат". Тады ён акрэсьліў шэраг перавагаў фашызму часоў Трэцяга рэйха.**

**Але справа ў тым, што ў Расіі на сёняшні дзень няма ніводнага рэгіёна, які жыве чыста па фашыстоўскіх законах, -- гэтая ідэялогія толькі набірае сваю моц. Праўда, магчыма гэта толькі пытаньне часу.**

**Запуцін**

**Расія шпарка паўтарае той шлях, якім увайшоў у нашую краіну Аляксандар Лукашэнка на працягу апошніх пяці год. Ствараецца адчуваньне, што Уладзімір Пуцін вырашыў прайсьці пяцігадовы шлях Лукашэнкі за пяць месяцаў.**

**Першая сур'ёзная нагода засумнявацца ў дэмакратычнасьці новага расійскага лідэра ўзнікла пасьля таго, як журналіст радыё "Свабода" Андрэй Бабіцкі зьнік ці то ў горных раёнах Чачні, ці то ў канцлагеры Чарнакозава. Пры Ельцыне такая сітуацыя адбыцца не магла, -- былы расійскі прэзідэнт вельмі пэдантычна ставіўся да пабудовы ўзаемаадносінаў з журналістамі. Пры Ельцыне журналіста маглі набіць альбо запужаць, але аддаць цынічна загад узяць яго ў заложнікі мог толькі эфэсбэшнік альбо Аляксандар Лукашэнка, які зрабіў практычна тое самае з Паўлам Шарэметам у 1997 годзе.**

**Яшчэ адзін непакоячы сімптом расійскага жыцьця - гэта выступы губернатараў Руцкога і Тулеева з ініцыятывай прызначэньня мясцовых кіраўнікоў фэдэральным цэнтрам. Безумоўна, такога кшталту ініцыятыва не магла нарадзіцца сама па сабе, а яе распрацоўкай займаўся Крэмль. У 1996 годзе Лукашэнка дамогся такога рашэння, зфальсіфікаваўшы вынікі рэферэндума.**

**Пра тое, якімі метадамі вядзецца чачэнская кампанія і казаць не прыходзіцца, -- усё схавана ў цемені. Ніякай інфармацыі акрамя афіцыйнай версіі развіцьця падзеяў не існуе. Невядомая ня толькі рэальная колькасьць загінуўшых мірных жыхароў, але і колькасьць забітых і параненых расійскіх салдатаў. Зводкі з месцаў вайсковых дзеяньняў нагадваюць беларускую статыстычную справаздачнасьць пра павышэньне надояў і прывесаў.**

**Асабліва небясьпечным для Беларусі зьяўляецца прагрэсуючы расійскі фашызм. Лідэр расійскага нацыянальнага адзінства Аляксандар Баркашоў ужо практычна легалізаваны для публічнай палітыкі, па выніках сацыялагічных даследванняў, карыстаецца падтрымкай прыкладна трох працэнтаў расіянаў. І пры тым, што ён пакуль ня меў магчымасьці данесьці свае ідэі праз электронныя СМІ.**

**Рускі фашызм ужо даўно перасягнуў межы Беларусі. Але Расея экспартуе ў Беларусь ня толькі ідэялогію нацызма, але і кіруючыя кадры.**

**Расійскія ідуць**

**На сёняшні дзень асноўны касьцяк беларускага ўрада складаюць тыя, хто прыехаў у Беларусь ня так даўно. Сьпіс "беларускіх расіян" уражвае: міністар унутраных справаў Сівакоў, міністар абароны Чумакоў, першы віцэ-прэм'ер, міністар замежных справаў Латыпаў, віцэ-прэм'ер Уладзімір Замяталін. На мінулым тыдні гэты сьпіс дапоўніўся в. а. прэм'ер міністра Уладзімірам Ярмошыным. Складаецца ўражаньне, што ў Беларусі прафэсійных кадраў не існуе. А нашая краіна займае адно з вядучых месцаў у Еўропе па колькасьці людзей з вышэйшай адукацыяй.**

**У прамысловасьці становішча не намнога адрозьніваецца ад палітычнага, -- вядучыя беларускія прадпрыемствы даўно кіруюцца расійскімі гастралёрамі. Апошнім такім прадпрыемствам стаў Беларускі металургічны завод, дзе кіраўніком стаў адзін з гаспадарнікаў Арлоўскай вобласці.**

**А вось адыёзны беларускі кадр Іван Ціцянкоў узначаліў беларускі філіял расійскай кампаніі "Ітэра". Магчыма расіянам спатрэбіцца шырокія сувязі былога загадчыка гаспадаркай краіны для захопу новых тэрыторыяў.**

**Дзіўна, што ў Беларусь запрашаецца вялікая колькасьць кіруючых кадраў з адсталай Расіі, і няма практычна ніводнага выпадку, калі б у краіну запрасілі сур'знага спецыяліста з ЗША, Англіі, Нямеччыны альбо Японіі. Тлумачэньне, мабыць, хаваецца ў вядомай заяве Лукашэнкі - "Я свой народ за цывілізаваным сьветам не павяду".**

**Выхад сілай**

**Прызначэнне Уладзіміра Ярмошына на пасаду прэм'ер-міністра можа азначаць два варыянты разьвіцьця падзеяў. Лукашэнка пачынае перыяд лібералізацыі і палітычнага і эканамічнага жыцьця Беларусі, альбо ён актыўна рыхтуе краіну да ўваходжаньня ў склад Расіі. Першы варыят мала рэальны з прычыны асаблівасцяў характару Аляксандра Лукашэнкі, -- усе спробы атачэньня піхнуць яго на ліберальныя рэформы на працягу пяці год скончаліся правалам. Другі ж варыянт выглядае больш рэальным.**

**Што мы можам супрацьпаставіць спробам уладаў здаць суверэнітэт нашай дзяржавы суседняй дзяржаве і кінуць нас у цемень расійскіх войнаў і імперскіх інтрыгаў? Толькі нашую салідарнасьць, адзінства і сілу духа. Улада можа спыніць свае інтэргацыйныя намаганьні толькі тады, калі ўбачыць, што беларускія грамадзяне не прыймаюць такой палітыкі. Выхад людзей на вуліцы ўвесну гэтага года можа стаць яскравым сведчаньнем таго, што абсалютная большасьць беларусаў выступаюць за свабодную і незалежную Беларусь.**

**Па выніках сацыялагічных даследванньяў за ўваход Беларусі ў склад Расіі выказваюць толькі 4% насельніцтва краіны. Але ціхай нязгоды, выказанай на кухні шэптам, ужо недастаткова. Беларусь павінна прайсьці той шлях, які прайшлі ў свой час Венгрыя, Чэхаславакія, Польшча - шлях дэманстрацыі людзьмі сваіх патрабаваньняў. Гэтыя краіны разам з Эўрасаюзам і ЗША падтрымліваюць сёньня дэмакратычныя сілы Беларусі ў іх барацьбе за свабоду і незалежнасьць. Але сёньняга ўціску на ўлады мала - на вуліцы Менска гэтай вясной павінны выйсьці дзясяткі і сотні тысячаў грамадзянаў, якія падзяляюць каштоўнасьці свабоды і дэмакратыі. Толькі так можна адстаяць сваю незалежнасьць.**

"Народная воля"

# Нацыянальная свядомасць нараджалася ў нашых сэрцах

**Сярод слонімцаў-дзеячоў Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918-20 гадах вылучаецца постаць Хведара Данілюка.**

Хведар Данілюк нарадзіўся ў 1887 годзе ў вёсцы Сурынка Слонімскага павета ў сялянскай сям'і. Да пачатку першай сусветнай вайны ён паспеў скончыць народнае вучылішча і духоўную школу пры Жыровіцкім манастыры. Данілюк працаваў настаўнікам у вёсцы Забулле, пасля служыў псаломшчыкам на Кобрыншчыне.

Хведар Данілюк прайшоў усю вайну, стаў афіцэрам. Лютаўская рэвалюцыя застала яго на Румынскім фронце. Ён далучаецца да руху беларускіх вайскоўцаў, якія імкнуліся стварыць нацыянальную армію. Пазней Данілюк успамінаў: "Яшчэ да першай сусветнай вайны і падчас яе мне давялося бачыць шмат куткоў былой Расійскай імперыі. І дзе я толькі не затрымліваўся, расійцы дапякалі мяне за мой нячысты акцэнт, называючы мяне палякам, а палякі, наадварот, звалі кацапам. Чужым і адзінокім адчуваў я сябе ў шматлюднай Расіі. Тады яшчэ слова "беларус", у выніку русыфікатарскай палітыкі расійскага ўраду, не мела значэння прыналежнасці да адной нацыі, а ўжывалася хутчэй як адзнака паходжання з "Северо-Западного края". Нацыянальная сьвядомасць нараджалася ў нашых сэрцах, перамагаючы пакінутыя чужынцамі погляды і фальшывыя ўяўленні. Звацца беларусам тады


Хведар Данілюк

значыла прыцягваць да сябе ўвагу начальнікаў і паддавацца бясконцым допытам і перасцярогам. Памятаю, калі я ў афіцэрскай школе, усьвядоміўшы канчаткова, хто я, запісаўся беларусам, мой курсавы афіцэр сказаў мне: "Ты рызыкант, калі ў вайну наважыўся напісаць, што беларус, а не рускі". Гэтак было сярод інтэлігенцыі, што ж казаць тады аб рабочых і сялянах! Народная гушча ў большасці яшчэ спала. Толькі лічаныя адзінкі пашыралі нацыянальныя ідэі і намагаліся пацягнуць народ да светлае будучыні...".

На Румынскім фронце наш зямляк у 1917-18 гг. актыўна фарміраваў беларускія вайсковыя аддзелы, якія імкнуўся перавезці на Бацькаўшчыну для абароны БНР. Аднак немцы і румыны перашкодзілі гэтаму. Тады Данілюк вяртаецца ў Беларусь сам, удзельнічае ў Слуцкім антыбальшавіцкім паўстанні. Пасля паражэння Беларускай Народнай Рэспублікі і яе падзелу акупантамі, Данілюк прысвячае сябе рэлігійнай дзейнасці — ён стаў праваслаўным святаром. Аж да 1944 года служыў настаяцелем у прыходах Слонімшчыны і Навагрудчыны. Неаднаразова яго арыштоўвалі "за антыпольскую дзейнасць"...

У верасні 1939 г. айцец Хведар Данілюк быў арыштаваны бальшавікамі і разам з сям'ёй апынуўся ў турме. Толькі дзякуючы паказанням сумленных сведкаў, ён аказаўся на волі. У час нямецкай акупацыі ў Мінску айцец Данілюк удзельнічаў у з'ездзе праваслаўнага духавенства, на якім была заснавана Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква. Вернасць ідэі беларускай аўтакефаліі айцец Данілюк захаваў да канца жыцця, якое закончыў на эміграцыі, у ЗША.

**Сяргей ЁРШ, "Г.С."**

## ПАПА РЫМСКІ БЭАТЫФІКАВАЎ ПАКУТНІКАЎ

Папа Рымскі Ян Павал Другі бэатыфікаваў нядаўна 44-х пакутнікаў. Сярод іх да ліку сьвятых былі далучаныя 11 польскіх манашак, забітых фашыстамі ў Навагрудку, у Беларусі. Папа падкрэсьліў гераізм сёстраў, якія дабраахвотна аддалі Богу жыцьцё, каб ураталаваць арыштаваных жыхароў Навагрудка. У набажэнстве ў Рыме, на пляцы сьвятога Паўла, узялі ўдзел дзесяткі тысячаў вернікаў з розных канцоў сьвету, у тым ліку і з Беларусі. У кароткай прамове Папа Ян Павал Другі асобна прывітаў беларускую пілігрымку.

Уладзіслаў КАНАВАЛАЎ (Гомель)
Кандыдат эканамічных навук

# СПЭЦЫФІКА МІЖНАЦЫЯНАЛЬНЫХ СТАСУНКАЎ:

## Вопыт ЗША для Беларусі.

Ва ўсе часы зьнешнія межы паміж блізкімі суседнімі этнасамі былі вызначаныя ня вельмі дакладна. Падабенства моў, традыцыяў, суседзтва альбо агульнасьць тэрыторыі заўсёды былі падставай для палітычных спекуляцыяў і авантураў. Нярэдка ў вызначэньні гістарычнага лёсу таго ці іншага народу рашучым фактарам была самаідэнтыфікацыя, самасьвядомасьць большасьці людзей у сэньсе прыналежнасьці да той ці іншай нацыянальнасьці. Глыбокія перамены, якія адбываюцца зараз на Беларусі, прымаючы часам нечаканы характар, выкрылі актыўныя этнічныя працэсы, вынікі якіх непасрэдна ўплываюць на эканамічную трансфармацыю і фармаваньне адпаведнай мадэлі нацыянальнай эканомікі. Безумоўна, гэтыя працэсы заслугоўваюць пільнага асэнсаваньня.

Сучасная этнічная трансфармацыя на Беларусі можа быць разгледжана толькі ў аспэкце гісторыі міжэтнічных зносін папярэдняга часу. Вядома, што ў СССР вызначэньню нацыянальнасьці не надавалася істотнай увагі. Найбольш характэрна гэта было для прадстаўнікоў славянскіх этнасаў. Прыкладам, калі ў пашпарце пэўнага чалавека было пазначана, што ён беларус, рускі ці паляк то гэта ня мела нейкага істотнага значэньня. Значна большы сэнс мелі клясавыя адрозьненьні і грамадзянства СССР. У адпаведнасьці з палітыкай ураду розныя этнасы мэтанакіравана зьліваліся ў адзін, перш за ўсё на падставе планавага фармаваньня адзінага гаспадарчага комплексу. Ідэялагічным фактарам зьліцьця этнасаў была сыстэма гуманітарнай адукацыі і палітычнага выхаваньня, найважнейшым элементам якой была ідэя клясавай еднасьці працоўных усіх нацыяў і стварэньне на падставе гэтага адзінства "новай гістарычнай супольнасьці — савецкі народ". Такім чынам інтэнсіўна ажыцьцяўлялася задача стварэньня новага этнасу, які мусіў яднацца вакол духоўных каштоўнасьцяў прынцыпова адметных ад тых, якія адпавядаюць прыродзе чалавека.

У выніку працяглай саветызацыі (звычайна выкарыстоўваецца недакладны тэрмін — русыфікацыя) за 70 гадоў існаваньня савецкай улады большасьць насельніцтва Беларусі ўспрыняла штучныя духоўныя каштоўнасьці, навязаныя камуністамі, як свае ўласныя, нацыянальныя. Тыя-ж сімвалы (чырвоны сьцяг замест нацыянальнага, зорка замест крыжа, савецкія сьвяты і г.д.) гвалтам альбо падманам навязваліся і іншым народам СССР. Але на Беларусі ў сувязі з пэўнымі асаблівасьцямі папярэдняй гісторыі, глеба для ўсталяваньня новых штучных каштоўнасьцяў была найлепшай. Сярод гэтых асаблівасьцяў найперш трэба вызначыць: 1) працяглы пэрыяд гвалтоўнай русыфікацыі беларусаў у складзе Расейскай імпэрыі з канца 18 стагодзьдзя (да гэтага даволі значны пэрыяд палянізацыі ў межах Рэчы Паспалітай); 2) лагоднасьць і памяркоўнасьць, як рысы нацыянальнага характару беларусаў; 3) культурна-этнічная блізасьць беларусаў да ўкраінцаў і рускіх і шматколькасная перавага апошніх; 4) вынішчэньне найбольш сьвядомых і актыўных элементаў беларускага народу пад час шматлікіх паўстаньняў, войнаў, рэпрэсіяў, якія сыстэматычна праходзілі праз Беларусь у апошнія стагодзьдзі; 5) мэтанакіраванае перасяленьне расейскага насельніцтва на тэрыторыю Беларусі ўладамі Расеі, а потым СССР.

Калі СССР зьнік, і фіктыўныя савецкія рэспублікі атрымалі статус незалежных дзяржаў, праблема адносін паміж этнасамі абвастрылася і нечакана сканцэнтравалася на праблеме вызначэньня нацыянальнай большасьці ў новых краінах. Адразу стала відавочна, што нейкія зьнешнія, біялягічныя ці культурна-этнічныя прыкметы не заўсёды могуць быць крытэрыямі вызначэньня нацыянальнай прыналежнасьці ў новых славянскіх краінах СНД. Разглядаючы міжэтнічную сытуацыю на Беларусі ў сярэдзіне 90-х гадоў можна адзначыць два наступныя факты: па першае, акрамя беларусаў і іншых "традыцыйных" этнічных групаў, існуе этнас не фігуруючы ў афіцыйнай статыстыцы — савецкі народ; па другое, колькасныя суадносіны беларусаў і іншых этнасаў у агульнай колькасьці насельніцтва не адпавядае афіцыйнай інфармацыі

Дастаткова дакладным паказчыкам суадносінаў колькасьці беларусаў і савецкіх людзей на Беларусі стаў рэспубліканскі рэфэрэндум у маі 1995 г. 79% выбаршчыкаў узяўшых удзел у рэфэрэндуме (болш за 70% маючых права голасу) адмовілася ад нацыянальнага сьцягу і гэрба Беларусі, якія былі сымбалямі беларускага народу на працягу многіх стагодзьдзяў, і выказаліся фактычна за ліквідацыю "роднай" беларускай мовы. Але важна адзначыць, што ў замен яны выбралі не расейскія ці ўкраінскія, а менавіта савецкія, камуністычныя гэрб і сьцяг, ніяк не зьвязаны з незалежнасьцю Беларусі ці нацыянальнымі традыцыямі беларусаў. Выбаршчыкі не былі падманутыя, яны на самай справе абралі свае нацыянальныя сымбалы — сымбалы савецкага народу. На падставе вынікаў рэспубліканскага рэфэрэндума і з улікам пазыцыі выбаршчыкаў не ўзяўшых удзел у рэфэрэндуме, можна меркаваць, што людзі беларускай нацыянальнасьці (фактычна, а не фармальна) складалі ў той час блізу 20% насельніцтва. Людзі савецкай нацыянальнасьці складалі блізу 70% насельніцтва, 10-12% — людзі іншых нацыянальнасьцяў. Такім чынам беларусы апынуліся ў ролі нацыянальнай меншасьці ва ўласнай краіне.

Менавіта савецкая большасьць абрала першым прэзыдэнтам краіны чалавека, галоўным пунктам палітычнай праграмы якога зьяўляецца абяцаньне аднавіць былую савецкую краіну, інакш кажучы, аднавіць этнічную прастору савецкага народу. Такая перспэктыва настолькі прыцягальная для савецкіх людзей Беларусі, што большасьць з іх працягваюць падтрымліваць існуючы палітычны рэжым ня гледзячы на шэраг моцных правалаў ва ўнутранай і зьнешняй палітыцы краіны, пагаршэньне стану эканомікі, істотнае зьніжэньне ўзроўню жыцьця. Савецкая большасьць, моўчкі альбо актыўна, падтрымлівае дзеяньні ўраду накіраваныя на просты ўціск беларускай меншасьці. Так, зараз чалавек які размаўляе пабеларуску на вуліцы беларускай сталіцы можа быць затрыманы міліцыяй, падазроны, любы, хто вывесіць нацыянальны беларускі сьцяг каля свайго дому, ці выйдзе з ім на вуліцу будзе аштрафаваны на вялізарную суму, у некалькі разоў перавышаючую сярэднямесячны заробак у Беларусі. Працягваючы савецкія традыцыі жорсткага "супрацьстаяньня з імпэрыялізмам" маленькая Беларусь перасварылася ледзь не з усім сьветам, што яшчэ больш пагоршыла і эканамічныя ўмовы разьвіцьця краіны. Усё гэта непазьбежна абвастрае і без таго напружаную сытуацыю ў міжэтнічнай, эканамічнай і палітычнай сфэрах жыцьця краіны. Натуральна такая сытуацыя панаваньня савецкага народу ня можа мець іншай перспэктывы, акрамя той якая ўжо напаткала раней Савецкі Саюз.

Такім чынам напэўна найбольш актуальнай праблемай для сучаснай Беларусі зьяўляецца праблема пошуку аптымальнага шляху трансфармацыі этнічнай сыстэмы. У сьвеце ёсьць значны станоўчы вопыт адаптацыі этнасаў. Большасьць краінаў сучаснага сьвету апынулася ў сытуацыі шматэтнічнасьці, як вынік інтэнсыўных міграцыйных працэсаў апошніх дзесяцігодзьдзяў. Але сытуацыя ў Беларусі своеасаблівая ў сэньсе таго, што ўласна беларускі этнас складае значную меншасьць насельніцтва краіны.

Найбольш даўні і найбольш станоўчы вопыт такога кшталту ёсьць у ЗША. Тут таксама першапачатковы этнас брытанскага паходжаньня паступова апынуўся ў меньшасьці, і нават, фактычна "растварыўся" ў шматлікіх этнічных плынях з усяго сьвету. Але ангельская мова, асноўныя элемэнты па быту і ўкладзе жыцьця брытанцаў засталіся культурнай асновай новай амэрыканскай нацыі. Такім чынам ангельская мова і культура сталі формай успрыняцьця амэрыканцамі агульначалавечых духоўных каштоўнасьцяў, як зьместу сьветапогляду амэрыканскай нацыі.

Спроба стварэньня новай нацыі была зроблена і ў СССР. Тут таксама на падставе расейскай мовы і культуры ажыцьцяўляўся працэс фармаваньня адзінага савецкага народу і, як запанавана вышэй, з пэўным посьпехам. Але нягледзячы на цяжкія і працяглыя намаганьні экспэрымэнт закончыўся крахам у этнічным, эканамічным і палітычным аспэктах. Палітычная структура СССР рухнула, часткова сфармаваны савецкі этнас аказаўся не ў стане стварыць эфэктыўную эканамічную сыстэму ні ў СССР, ні ў паслясавецкай Беларусі. У той-жа час ЗША здолелі пераадолець значныя цяжкасьці на шляху вырашэньня міжэтнічных і эканамічных праблемаў і здолелі заняць месца лідэра сярод краінаў сучаснага сьвету.

На наш погляд галоўная прычына ў прынцыповым адрозьненьні духоўных каштоўнасьцяў і агульных мэтаў, якія аб'ядноўвалі людзей рознага этнічнага паходжаньня ў працэс стварэньня "новай" савецкай нацыі і новай амэрыканскай нацыі. Ролю абраных духоўных каштоўнасьцяў і агульных мэтаў у жыцьці грамадзтва можна параўнаць з роляй сучаснага мэнэджмэнту ў разьвіцьці нацыянальнай эканомікі. Чым больш рацыянальныя гэтыя каштоўнасьці, тым больш эфэктыўна разьвіваецца грамадзтва, тым больш асэнсаваныя і актыўныя паводзіны ў ім асобных індывідаў. Трэба дадаць, што стварэньне новай грамадзкай супольнасьці — савецкі народ адбывалася фактычна прымусова, бо тым хто жыў на тэрыторыі СССР не пакідалі альтэрнатывы ні ў сэньсе зьмены месца жыхарства ні ў сэньсе ўспрыняцьця іншых духоўных каштоўнасьцяў. У такой сытуацыі народам СССР навязваліся штучныя духоўныя каштоўнасьці не існуючыя рэальна кшталту агульнароднай маёмасьці (замест прыватнай), маёмаснай роўнасьці ўсіх людзей працы як першай жыцьцёвай патрэбы любы бясспрэчны прыярытэт дзяржавы ва ўсіх галінах жыцьця грамадзтва. Асноўнай агульнай мэтай абвяшчалася пабудова камунізму дзе ўсе будуць мець усё што заўгодна ў неабмежаванай колькасьці.

У ЗША людзі розных нацыянальнасьцяў добраахвотна стварылі новую нацыю, яднаючыся вакол рэальных агульначалавечых каштоўнасьцяў, адпавядаючых прыродзе чалавека незалежна ад этнічнага паходжаньня — непарушнасьць прыватнай маёмасьці, роўнасьць усіх людзей перад законам, эканамічная і духоўная свабода індывіда, прыярытэт асобы ў адносінах з дзяржавай і г.д. Відавочна, што рэальная (а не абвешчаная) каштоўнасьць духоўных набыткаў, ідэяў, сымбалаў, мэтаў вакол якіх адбываецца яднаньне і трансфармацыя нацыі абумоўлівае і рэальны вынік гэтых працэсаў.

Такім чынам для вырашэньня шматлікіх праблемаў сучаснай Беларусі, у працэсе аб'ектыўна непазьбежнай этнічнай і эканамічнай трансфармацыяў, савецкі народ павінен прыняць, як уласныя, агульначалавечыя каштоўнасьці, і адмовіцца ад штучных, успрынятых пад ціскам камуністычнага рэжыму. Натуральна, што формай успрыняцьця гэтых каштоўнасьцяў на Беларусі мусяць быць беларуская мова і культура. Гэта складаны, балючы, але адзіна рэальны шлях станоўчых зьмен і паўнавартаснага далучэньня краіны да міжнароднай супольнасьці.

---

**ДАПАМАГАЙЦЕ**
**БЕЛАРУСІ**
**Ў**
**ЗМАГАНЬНІ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ, СВАБОДУ І ПРАЎДУ!**

**Сакрат ЯНОВІЧ** (Беласточчына)

# БЕЛАРУСКАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ Ў ПОЛЬШЧЫ

Беларускае нацыянальнае адраджэньне ў Польшчы — пасьля каляніяльнага пэрыяду — датычыць пасьляваенных гадоў /ад восені 1944 г./. Трэба вязаць яго з існаваньнем каля двухсоттысячнай беларускай мяньшыні, кампактна насяляючай тады цэнтр і ўсходнюю паласу Беластоцкага ваяводзтва. На тэрыторыі цяперашніх паветаў — Сакольскага, Беластоцкага, Гайнаўскага, Бельскага, Сямяціцкага. Было гэта насельніцтва сялянскае з невялікім адсоткам местачковага; гарадзкая дыяспара беларусаў складала сабою маргінальны працэнт. У сацыяльным успрыняцьці выяўлялася тое ў існаваньні стэрэатыпу "беларус-мужык" як сынонім той-жа грамадзкай зьявы. Толькі праз паўвеку гэткая сытуацыя радыкальна зьменіцца.

Першыя парасткі нацыянальнай беларускасьці ў тую пару ня мелі пад сабою істотных традыцыяў і праявіліся перш за ўсё ў частковым аднаўленьні сеткі беларускамоўных школаў, утвораных у двухгадовы пэрыяд прыналежнасьці беластоцкага рэгіёну да Беларускай ССР, /да лета 1941 г./. У некаторай ступені задзейнічаў тут мэханізм аўтаматызму ў сувязі з няпэўнасьцю дзяржаўнай мяжы паміж Польшчай і СССР у выніку Ялцінскіх пагадненьняў. Ухваленая "лінія Керзана" не характарызавалася тапаграфічнай дакладнасьцю, допускаліся значныя ваганьні ў абодва бакі /напр. у Гайнаўцы першапачаткова асталяваліся савецкія структуры адміністрацыі/. Малалікасьць беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, нярэдка інцыдэнтальнай у шматлікіх ваколіцах, моцна ўскладняла нават гэту школьную задачу. Пад паняцьцем "інтэлігэнцыя" разумелася асобы з сярэдняй або паўсярэдняй адукацыяй /пра тых з вышэйшай ня чулася/. На такое кадравае становішча скаліся дзьве гістарычныя акалічнасьці: вялікая беднасьць наагул беларускага насельніцтва і выкліканая тым недаступнасьць да сярэдняй і вышэйшай асьветы ў даваеннай Польшчы, а таксама эксодус перад савецкім фронтам у 1944 г. беларускіх інтэлігентаў, якія, добра ўсьведамляючы натуру бальшавіцкага рэжыму, не памыляліся, што будуць абвінавачаны ў калябарацыянізьме з нямецкімі акупантамі /хоць-бы таму, што былі актыўнымі ў сваіх прафэсіях, не пайшлі ў партызаны/.

Такім чынам узьнікла інтэлектуальная пустка на арэале беларускай нацыянальнай мяньшыні ў пасьляваеннай Польшчы.

У 1947-м годзе адбылася ліквідацыя — адміністрацыйнымі мэтадамі — усяго беларускага тут. У настроі ўсеагульнай рэпатрыяцыі — абмену насельніцтвам з суседнімі краінамі — беларусаў, што не выехалі жыць у СССР, патрактавана як аптуючых за польскай нацыянальнай сьвядомасьцяй.

У 1949 годзе аказалася, што рэпатрыяцыя адсюль у Беларускую ССР не набыла масавы характар, акрамя беларуска-мазавецкага памежжа, дзе даходзіла да гэнацыдных канфліктаў на сутыку праваслаўя з шляхецкім каталіцтвам. Кіраўніцтва тадышняй партыі ўлады — Польскай Аб'яднанай Рабочай Партыі — зыходзячы, відаць, з палітычных патрэб саюзу з СССР, вырашыла сьпешным парадкам аднавіць беларускае школьніцтва. Разам з тым трэба памятаць, што з боку аўтахтонных беларусаў не наглядалася захадаў у гэтым напрамку. Ва ўмовах нацыянальна-інтэлектуальнай пустыні і не магло іх быць. Дзеля таго патрэбна інтэлігенцыя, карэнная.

Апрача больш трыццаці пачатковых школаў з беларускай моваю навучаньня — дакладныя лікі немагчымыя з увагі на несалідную статыстыку — зьверху ўведзена факультатыўны прадмет беларускай мовы ды літаратуры ў блізу сотню рэшты школаў у вёсках і мястэчках тых паветаў /найменш у Сямяціцкім і Саколкаўскім, у якіх пераважае рыма-каталіцкае насельніцтва/. Утворана беларускія клясы ў бельскім Пэдагагічным Ліцэі ў ролі кадравай базы, і два агульна-адукацыйныя ліцэі з беларускай моваю навучаньня /у сапраўднасьці фіктыўна; не было і няма кадраў, і жаданьня бацькоў/. Не аднаўлена ўжо беларускую гімназію ў Беластоку, разагнаную ў '47.

Улады прынялі наступны прынцып: стварыць беларускамоўную асьвету ў маштабах і на ўзроўні польскамоўнай. Утопію такога намеру як быццам не заўважана — драматычна не хапалаж настаўніцкіх кадраў, ня кажучы пра амаль поўную адсутнасьць спэцыялістаў здольных стварыць адпаведныя прадметныя падручнікі. Спачатку ўсенька роблена на аматарскім узроўні, а настаўнікаў рыхтавалі ў аварыйных тэмпах на т. зв. вакацыйных курсах павышэньня кваліфікацыяў.

Разважаючы пра беларускае нацыянальнае адраджэньне ў пасьляваеннай Польшчы, не заўсёды памятаем аб тым элемэнтарным гістарычным факце, што Беласточчына знаходзілася на пэрыфэрыі беларускага руху, не арганізаваліся тут аніякія трывалыя, шматгадовыя, беларускія структуры нацыянальнага жыцьця /як прыкладам на Гарадзеншчыне ці Віленшчыне, па ўсім Панямоньні/. Ніколі — патаемныя беларускія школы, рэдакцыі часопісаў.

Вельмі верагодна, што цэнтральныя ўлады Польшчы ня мелі арыентацыі ў фактычным стане нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў і ў дачыненьнях з імі рэалізавалі палітыку аналягічную, як да сьпелых нацыяў — летувісаў, украінцаў, славакаў, немцаў. Кідаецца ў вочы менавіта адміністратыўная мэханічнасьць нават у стварэньні ўзімку 1956 году Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства і тыднёвіка "Ніва" /надакучыла тады праблема знайсьці чалавека, здольнага пісаць па-беларуску прынамсі на газэтным узроўні/. Кадравае забесьпячэньне адбывалася шляхам дэлегацыі людзей з сякой-такой беларускай сьвядомасьцю з усіх установаў, у тым ліку і з "сілавых" структураў.

На той момант жыло літаральна чатырохпяцёх паўінтэлігэнтаў з прыблізнай памяцьцю пра беларускія нацыянальныя традыцыі. Найпершым журналістам тыднёвіка "Ніва" надта дарэчы аказаліся проста вучнёўскія гутаркі пра само існаваньне беларускай культуры і літаратуры. Шмат у гэтым сэньсе дапамагло ўтварэньне завочнага аддзяленьня беларускай філялёгіі ў Беластоку — праз два гады потым — у якім выкладала запрошаная савецкая прафэсура.

Таму цалкам натуральна, што не даводзіцца гаварыць і пра беларускі літаратурны рух тае пары ў рэгіёне. Дасьледнікам вядомыя даслоўна некалькі імёнаў фальклёрных паэтаў /Куршэль, Юравец, Дзун/. Гэта былі сяляне з некаторай начытанасьцю, з прыроднай схільнасьцю да простага вершаскладаньня ў паэтыцы сямейнай і вясельнай лірыкі, зазвычай гумарыстычна-сатырычнай. Зьяўленьне "Нівы" спарадзіла значнае ажыўленьне падобнай творчасьці, нярэдка ў выглядзе вершаванай карэспандэнцыі. Характэрна, што выключна ў асяродзьдзі старэйшага пакаленьня, былых чытачоў віленскіх даваенных беларускіх часопісаў /напр. сатырычнай "Маланкі"/. Выразны сьлед пакінула акупацыйная "Новая Дарога", асабліва паэтычныя гумарэскі Шэршаня, імя якога па сёньня не разгаданае гісторыкамі літаратуры. "Новая Дарога", рэдагаваная выдатным паэтам Хведарам Ільляшэвічам, паўнафарматным інтэлігентам з унівэрсытэцкай адукацыяй, застаецца ў гісторыі Беласточчыны першым стабільным беларускім выданьнем. На жаль, кантэкст "акупацыйнай газэты" перакрэсьліў на пакаленьні яе значэньне ў пасьляваенным фармаваньні нацыянальнай сьвядомасьці.

Неўзабаве "Ніва" надрукавала дэбюты маладых аўтараў, ліцэістаў і студэнтаў. Былі гэта якасна іншыя тэксты, часта напісаныя з адчувальнай таленавітасьцю, кантактуючыя з высокамастацкай літаратураю /напр. Дубіцкі, Барскі, Гайдук/. Шчасьліва сустрэлася тое з такімі-ж зацікаўленьнямі шэфа "Нівы", Юркі Ваўкавыцкага, выпускніка маскоўскага Літаратурнага Інстытуту /закончыў у якасьці студэнта з Польшчы/. У чэрвені 1958 году арганізоўваў ён пры рэдакцыі літаратурны гурток, з якога вырасла потым Беларускае Літаратурнае Аб'яднаньне "Белавежа". Праз год — выйшаў альманах "Рунь", кволы зборнічак прынівавускіх паэтаў. Чытацкая публіка сустрэла яго як сэнсацыю, паявіліся нават замежныя рэцэнзіі. Пры гэтай нагодзе варта паведаміць, што "Рунь" паказалася як першая паэтычная кніжыца ў шматвяковай дзеі Беластока, пры чым беларуская ў гэтым вельмі польскім горадзе, тады досыць местачковым, хоць і з буйнай тэкстыльнай прамысловасьцю. Пражываючыя ў ім польскія літаратары не ўяўлялі сабою хоць-бы сярэдняй рукі творцаў і былі людзьмі прышлымі сюды, не карэннымі. Таму, мабыць, слаба арганізаванымі і мала дынамічнымі. Больш нахлебнікамі культуры, чымсь яе стваральнікамі. Адсюль бярэцца прымат беларускага літаратурнага жыцьця над польскім, які ўсё ўтрымліваецца, нягледзячы на захады цяперашніх уладаў маргіналізаваць беларушчыну. Дадатковы доказ моцы традыцыі, ужо блізу паўвяковай.

У іншых галінах культуры польскія беларусы не дабіліся так выдатных вынікаў. Цяжарам лягла заглухлая правінцыйнасьць Беласточчыны, яе эканамічна-цывілізацыйная непатрэбнасьць у сыстэме ўсяе Польскай Дзяржавы, якая сваімі межамі моцна прасунулася ў заходнім напрамку, узбагачаная нямецкімі тэрыторыямі ўздоўж Балтыкі і Одры-Нысы.

Беларускае нацыянальнае адраджэньне ў пасьляваеннай Польшчы на працягу доўгага часу — амаль двух пакаленьняў — не падлягала элітнай дыфэрэнцыяцыі і мела цалкам народнае аблічча. Беларускамоўная адукаванасьць не перавышала элемэнтарнай падставовай школы, чытацкая база "Нівы" ў прынцыпе не перамяшчалася па-за вёску і мястэчка, аматарскі рух — хоры, тэатральныя гурткі — рэдка арганізоўваліся ў большых гарадзкіх цэнтрах, у якіх заўсёды дамінавала польская культурнасьць. Радыёперадачы на беларускай мове — ад 1958 г. — былі сарыентаваныя на сялянскага слухача. Сетка гурткоў Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства дзейнічала на ўзроўні гмінных праблемаў. Адначасна з нарастаючым працэсам гарадызацыі і штораз хутчэйшым зьнікненьнем сялянскай клясы — беларускае адраджэньне страчвала грамадзкую значнасьць. Гэтыя аб'ектыўныя прычыны паглыбляла палітыка дзяржавы, якая ў другой палове шасьцідзесятых гадоў адназначна арыентавалася ўжо на поўную асыміляцыю, палянізацыю. Нішто не дазвалялася за рамкамі дзейнасьці таго-ж Таварыства і спадарожных яму, дапамогавых структураў /нават ліквідавана дазволеную гаспадарчую дзейнасьць камэрцыйнага профілю/. У дэкаду Герка, калі абавязвала тэза маральна-палітычнага адзінства народу Польшчы, яўна пачаўся курс на абмежаваньне беларускага культурнага — асьветнага руху да паказовае атрапы, да нейкага акварыума з "беларускімі рыбкамі" дзеля агляду замежным гасьцям. Цяжка сказаць, наколькі было ўсё тое ініцыятываю самое Варшавы. Магчыма, што маем тут дачыненьне з сынхроніяй палітыкі СССР, з імкненьнем Масквы да зьліцьця савецкіх народаў у адзін новы на груньце расейшчыны... Сатэліцкі Маскве варшаўскі ўрад не павінен быў талераваць у сябе мяньшыні сумежных савецкіх нацыяў. Гэта гучыць лягічна.

Адна за адною заміралі тыя-ж дапамогавыя структуры вакол Таварыства, уключна з тэндэнцыяй перавесьці "Ніву" на польскую мову, пакідаючы беларускамоўнай ейную літаратурную старонку. Дэгэнэрацыю навучаньня прадмета беларускай мовы — не дапускалася навучаньня элемэнтаў гісторыі Беларусі — даведзена да крайнасьці, прымусіўшы лідэраў Таварыства заявіць, што навучаньне роднай мовы стварае перашкоды ў разумовым разьвіцьці дзіцяці.

Нацыянальная культура кожнага народу мае

тую далікатную ўласьцівасьць, што яе даволі лёгка затаптаць і надзвычай цяжка ажывіць. З беларускай, як-жа слаба яшчэ ўкаранёнай у этнасе, удалося тое ўладам дзяціна проста. І сёньня мы маем тое, што маем: адчужанасьць беларускай культурнасьці ад беларусаў, пераход ад пазнакі на ёй народнасьці ў пазнаку інтэлігэнцтва /селянін ужо ня хоча гаварыць з дзецьмі на роднамоўі, тлумачачыся непатрэбнасьцю яе ды іншымі рацыямі жыцьцёвае прагматыкі/. Ідэнтычны мэханізм моўнай асыміляцыі можна панаглядаць, напрыклад, у гішпанамоўных ужо баскаў ці англамоўных ірляндзцаў, якіх не ў стане вярнуць у ірляндзкамоўнасьць нават дзяржаўнасьць гэтай мовы ў Рэспубліцы Ірляндыя. Як забіты чалавек не ўваскрасае, так і забітая мова застаецца мёртвай, хоць і зразумелай, як у выпадку беларускай у славянскім-жа атачэньні.

Як беларус я не магу ўявіць сабе працягласьць Польскай Народнай Рэспублікі да двухтысячнага году, ані Савецкага Саюзу. Мы, як нацыя, апынуліся-б да гэтага часу ў глыбокай магіле. Ад нас, беларусаў, засталіся-б пыльныя экспанаты па музэях, нудныя публіцы, а цікавыя дасьледнікам даўніны. Такі нам рыхтавала канец народная ўлада ў Польшчы і родная партыя камуністаў у СССР. Створана грамадзкі стэрэатып: беларус — гэта той, хто запозьнены ў сваім асабовым разьвіцьці.

Вымушаная ўладамі манапалізацыя Таварыствам беларускага адраджэнскага руху на пасьляваеннай Беласточчыне, прадыктаваная палітычнымі патрэбамі лімітаваць яго, элімінаваць у ім тэндэнцыі разьвіцьця, дзеля заплянаванай стагнацыі і канчальнай рэдукцыі да рэшткавых праяваў ва ўжытак прапаганды навонкі, — скончылася разам з заняпадам камуністычнае сыстэмы. Знамянальным тут быў 1981 год, першая яго палова, калі ў веснавыя месяцы прадакумэнтавала сваю дзейнасьць падпольнае Беларускае Незалежнае Выдавецтва, кальпартуючы м. ін. пэрыёдык "Беларускія Дакумэнты" /друкаваны шапіраграфнаю тэхнікаю/. Так падало свой голас, непрадчуванае дагэтуль пакаленьне маладой беларускай нацыянальнай інтэлігэнцыі, найперш студэнты, з якімі Таварыства старанліва пазьбягала шырэйшых кантактаў, як рызыкоўных яму. Мэтафарычна кажучы: неспакойныя ў палітычны злом эпохаў дзеці ўзбунтаваліся супраць бацькоў у выгодным маразьме.

У Варшаве, Беластоку, Любліне, Альштыне, у іхных акадэмічных асяродзьдзях выфармавалася выніковае Беларускае Аб'яднаньне Студэнтаў, спачатку ў рамках унівэрсытэцкай аўтаноміі. Судовую рэгістрацыю гэтай баявітай структуры перапыніла ваенная становішча ў Польшчы /ад паловы сьнежня 1981/. Абрэвіятура БАСу аднак ня зьнікла на працягу ўсяе падпольніцкае адысэі ў беларускім руху, аж да моманту пераходу ўлады ў рукі "Салідарнасьці". Яшчэ ў працяг Круглага Стала — зьявілася трэйцяя нелегальная структура, Клюб Беларускай Палітычнай Думкі, як элітны цэнтр падрыхтоўкі беларускіх палітычных кадраў /пад скарочанай назваю: Беларускі Клюб — прыняў удзел у парлямэнцкіх выбарах у чэрвені 1989 г., кандыдаты ад якога у Сойм і Сэнат набралі нават больш галасоў за камуністычных/. Ва ўмовах лібэралізацыі рэжыму паўлегальна выходзіў вельмі добры пэрыёдык "Кантакт", аднак хутка страціўшы рацыю існаваньня ў сувязі з ліквідацыяй цэнзуры.

Кожны нацыянальны рух імкнецца да свае фінальнай дэфініцыі ў выглядзе ўласнай палітычнай партыі. Так сталася і з польскімі беларусамі. Спомнены ўдзел у парлямэнкіх выбарах, з нечакана пазытыўнымі рэзультатамі, непазьбежна выклікаў патрэбнасьць у палітычным прадстаўніцтве. На кадравай базе Беларускага Клюбу дайшло — у лютым 1990 г. — да ўтварэньня Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня. Гэтая партыя існуе па сёньняшні дзень, але як быццам у эмбрыянальным стане, хоць у апошнюю фармальную перарэгістрацыю сабрала ў сваю падтрымку болш аднае тысячы прыхільнікаў і дабілася мандатаў у шэрагу камунальных выбарах самакіраваньня на Беласточчыне /напрыклад, у Гарадоцкай гміне цалкам дамінуе/. Яе сьледам арганізоўваліся асобныя беларускія выбарчыя камітэты, з важкімі вынікамі ў Бельску і Гайнаўцы /Беларускі Народна-Выбарчы Камітэт/. На цяперашні гістарычны момант гэта падаецца вяршыняй магчымасьцяў беларускага палітычнага руху. Спад яго дынамікі, першапачаткова надзвычай настойлівай, вяжацца з агульнай сытуацыяй у Польшчы, з яе ўваходжаньнем у капіталістычную сыстэму, у рынкавую эканоміку перадусім. Што выявіла эканамічную маргінальнасьць Беласточчыны, яе вагу ў агульнадзяржаўным патэнцыяле ў межах усяго аднаго з лішнім працэнта. Таму ў гаспадарчым плане Беласточчына застаецца без значэньня для Польшчы. Так сказаць, яе, Беласточчыны, магло-б і ня быць увогуле!

Акрамя самога Беластока, цэнтру з каляніяльным імпэтам, падлеглы яму рэгіён апустыньваецца, сатэліцкія гарады ссыхаюцца, паступова пераўтвараючыся ў прыпынішчы людзей у далейшы сьвет. Драматычная сытуацыя самое Гайнаўкі, яшчэ нядаўнім часам мэта ўсіх цывілізацыйных перамяшчэньняў з навакольных вёсак ды мястэчак. Жыла з Белавескай пушчы, якую ў інтарэсах Польшчы трэба перакваліфікаваць з лясного комплексу прамысловай важнасьці ў рэзарвацыю прыроды. А тое, што гэта сьмяротны вырак Гайнаўцы, якраз найменей істотнае. Як неістотным было раней затапленьне пад Семяноўскае вадасховішча дзесятка вёсак, якія ўяўлялі сабою этнічнае ядро беластоцкай беларушчыны. Вядома, у сьвятле правоў нацыянальных мяньшыняў Эўропы — гэта злачынства, але яно збылося і нічога ўжо назад не павернеш. Як не вяртаюцца мёртвыя.

У дзевяностыя гады ў пульсацыі беларускага руху прыкмячаецца ўяўны парадокс: этнічную масу ў ашаламляльных тэмпах глынае гарадызацыя, якая дае эфэкт татальнае самапалянізацыі, зьнікае чытач нацыянальнага слова, і разам з тым ня менш ашаламляльна шырыцца актыўнасьць беларускіх структураў, арганізацыяў. Вельмі прадуктыўна дзейнічаюць, ужо юрыдычна самастойнае Беларускае Літаратурнае Аб'яднаньне "Белавежа", Беларускае Гістарычнае Таварыства, Беларускае Аб'яднаньне Студэнтаў, Зьвяз Беларускай Моладзі, Праграмная Рада тыднёвіка "Ніва", Беларускае Асьветнае Таварыства... Калі ў папярэнія дэкады выхад двух беларускіх кніжак у год лічылася дасягненьнем, дык цяпер што ні месяц то новая кніжка: літаратурная, навуковая, папулярызатарская, каляндарная. Народную "Ніву" дапаўняе інтэлігэнцкі штомесячнік "Часопіс" і літаратурны пэрыёдык "Тэрмапілы", ня лічачы выпадковых эфэмэрыдаў у стылі паўпрыватных ініцыяцыяў. Рыхтуецца рэгулярны выхад перыёдыка "Год Беларускі", шматмоўны, для чытачоў у Эўропе, зацікаўленых найперш беларускай літаратураю. На базе сьвежай структуры — Згуртаваньня Віля Сакратас з сядзібаю ў Крынках на Сакольшчыне.

Імпульсіўнае пашырэньне інфраструктуры беларускага руху — у сярэдзіне дзевяностых гадоў — у асноўным ня выйшла па-за сфэру маладабеларусаў з інтэлігэнцкім статусам. Практычна не парушыла пазыцыяў Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства з даўнімі традыцыямі арганізацыйнай работы ў тэрыторыі. Таму невыпадкова яно праігнаравала запрашэньне ўступіць у Беларускі Саюз у Польскай Рэчы Паспалітай, у гэту арганізацыю арганізацыяў, утвораную па ініцыятыве Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня дзеля эфэктыўнага партнэрства з урадавымі органамі. У выніку, Таварыства гуртуе настальгікаў посткамуністычнай арыентацыі, вострa супраціўных маладабеларускаму эўрапэізму. Сытуацыю дадаткова ўскладняе "крэсавы" нацыяналізм беластоцкай "Салідарнасьці", які цярпець ня можа наагул беларусаў. Гэта вядзе да бантустызацыі беларускага энкляву. Да сытуацыі сьцяны або двух асобных ды процістаўных як бы парафіяў, з унутранай у іх барацьбою. З двух рэальных варыянтаў дзяржаўнай палітыкі ў дачыненьнях з нацыянальнай мяньшыняй — інтэграцыі або асыміляцыі — яшчэ раз выбрана менавіта асыміляцыю.

Ахілесавай пятою беларускага руху ёсьць заўсёдная ў ім адсутнасьць уласнага капіталу, вечнае спадзяваньне на ўрадавыя датацыі. Прычына таго ў гістарычнай аднаклясавасьці беларускай нацыі, у яе дробнасялянскім радаводзе, у недахопе слою буржуазыі. Што і прадвырашае этнічна-нацыянальную катастрофу. Беларусы не вытварылі нутранагаспадарчага рынку тавараў і працы, гарызантальнай повязі, цалкам знаходзячыся ў вэртыкальных залежнасьцях. Ад фанабэрыі міністэрскіх рэфэрэнтаў, вызнаючых пэрвэрсію "хачу — дам, не хачу — ня дам". Малыя датацыі вялікай справе, сумы "на цукеркі"...

Беларускае нацыянальнае адраджэньне ў Польшчы напрыканцы веку так і не набыло грамадзкага размаху. Яго становішча настолькі палепшала, што цяперашнім часам не падпарадкаванае фармальнай лімітызацыі, і столькі ўсяго палёгкі. Беларускае грамадзтва надалей няздольнае напрацаваць матэрыяльны патэнцыял дзеля нацыянальных патрэбаў. Усё арганізаванае ў ім набрыняла мэнталітэтам кліентуры. Гэта "просьбічы", а не гаспадары сваіх плянаў ды намераў. Усёйчас вэгэтацыя з кароткімі перапынкамі багацейшай спагады, пераважна ў прыліў міжнароднай каньюктуры. Тыповы лёс інтэлігэнта, за сьпіною якога не відаць кагосьці з тугім кашальком.

Калі паўвеку назад былі моцныя этнічна і слабыя інтэлектуальна, дык цяпер прапорцыя адваротная.

Канец 1999 г.

## *Уладзімер Пуцін быў абраны прэзыдэнтам Расеі ў першым жа туры галасаваньня.*

**Зразумела, беларускія грамадзяне ў расейскіх выбарах удзелу не бралі, але пад час перадвыбарчае кампаніі заклікі на карысьць тых ці іншых кандыдатаў у Беларусі гучалі. У Берасьці распаўсюджваліся ўлёткі з заклікамі агітаваць сваіх родных і знаёмых у Расеі галасавацьзаЗюганава.**

**Варта адзначыць, што гэтым разам беларуская тэма не фігуравала ў расейскіх перадвыбарчых дэбатах. Нават скандальнае зьбіцьцё журналістаў у Менску ў Дзень Волі, напярэдадні выбараў, не выклікала публічнае рэакцыі афіцыйнае Масквы. Хаця падзея сапраўды скандальная – да расейцаў добра ставяцца далёка не паўсюль, у розных краінах часам дастаецца й расейскім карэспандэнтам, але нідзе ў сьвеце, акрамя Беларусі, расейскіх журналістаў ня білі прадстаўнікі ўлады.**

**Магчыма, Пуцін, які ў суботу патэлефанаваў Лукашэнку, абмяркоўваў зь ім не абстрактныя праблемы стварэньня хаўрускае дзяржавы, а выкладаў сваё стаўленьне да зьбіцьця карэспандэнтаў ОРТ і РТР. Але публічна напярэдадні выбараў сварыцца з хаўрусьнікам ня сталі.**

**Паказальным у расейскіх выбарах стала ня толькі перамога Пуціна, але й другое месца, якое зь вялікім адрывам ад астатніх прэтэндэнтаў заняў лідэр камуністаў Зюганаў. За 4 апошнія гады структура расейскага электарату амаль не зьмянілася: ёсьць два электаральныя гіганты – электарат улады й электарат камуністаў. Рэшта нязначная і расьцярушаная – Пуцін і Зюганаў разам узялі больш за 80 адсоткаў галасоў выбаршчыкаў.**

**Дарэчы, нядаўнія прэзыдэнцкія выбары ва Украіне паказалі, што і ў нашай паўднёвай суседкі структура электарату ў прынцыпе падобная.**

**Тое, што Пуцін перамог у першым туры, можа мець дрэнныя наступствы і для Расеі, і для Беларусі. Калі б быў другі тур, Пуцін меў бы патрэбу ў пашырэньні колькасьці сваіх прыхільнікаў, у першую чаргу за кошт дэмакратычнага электарату. Зараз жа ў яго няма аніякіх абавязкаў перад палітычнымі сіламі, якія супрацьстаялі яму ў першым туры.**

**Юры Дракахруст, Менск**

**«Беларускі Дайджэст» чакае Вашае ахвяры!**

## Мелодыі натхненьня і любові

Споўнілася 75 гадоў Міхасю Клейнеру – вядомаму паэту, сьпеваку і кампазытару, які цяпер жыве ў Чыкага. Ён часта прыгадвае свае родныя Парычы, тыповае беларуска-яўрэйскае мястэчка там, між Бабруйскам і Мазырам, дзе прайшло яго дзяцінства і юнацтва. Адтуль, з тых часоў захавалася ў яго любоў да беларускай мовы і беларускай духоўнасьці, а таксама любоў да мовы ідыш і яўрэйскай культуры.

Свае вершы і натхнёную музыку да паэтычных твораў Міхась Клейнер пачаў пісаць параўнаўча нядаўна – 25 год таму. Яго ўласная паэзія надзвычай лірычная і шчырая, спавядальная, прасякнутая роздумам над жыцьцём сучасьніка. Яна апявае каханьне і вернасьць гэтаму пачуцьцю. Таму і мелодыі, што стварае Міхась Клейнер, надзвычай выразныя, задушэўныя, лёгка запамінальныя.

Асобная старонка музычнай творчасьці Міхася Клейнера – яго рамансы і песьні на вершы іншых паэтаў, пераважна беларускіх і тых, хто пісаў на мове ідыш. У яго творчым актыве шмат пакладзеных на музыку твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Уладзімера Дубоўкі, Натальлі Арсеньневай, Алеся Салаўя, Аляксея Пысіна, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Сяргея Панізьніка і іншых беларускіх паэтаў. Выдатна гучаць яго песьні, створаныя паводле вершаў І.Харыка, М.Тэйфа, А.Гантара, Х.Бейдэра, Л.Найдуса і іншых яўрэйскіх паэтаў. Жыцьцё і творчасьць некаторых з іх была непасрэдна звязаная з Беларусьсю…

У канцы сакавіка ў Чыкага ў перапоўненай зале Russian Senior Center адбылася своеасаблівая творчая справаздача Міхася Клейнера. Дзьве з паловай гадзіны гучалі ў аўтарскім выкананьні яго песьні і рамансы, у тым ліку і на вершы беларускіх паэтаў. Юбіляра віталі шматлікія прадстаўнікі афіцыйных і грамадзкіх арганізацый, у тым ліку і спадарыня Вера Рамук ад Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага.

Мы шчыра віншуем спадара Міхася Клейнера з нагоды сямідзесяціпяцігоддзя! Зычым яму добрага здароўя і новых плённых творчых посьпехаў!

В. Н.





На здымку: Міхась Клейнер, Вера Рамук, Ліля Клейнер і Др. Вітаўт Рамук.

### Я АД ВАС ДАЛЁКА

Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні, -
На чужое неба ўжо гляджу сягоньня.
Але думкай, сэрцам толькі вас я знаю,
Як і жыў, жыву я ў сваім родным краю.
І няма на сьвеце так вялікай меры,
І няма на сьвеце так каваных дзвераў,
Каб хоць на часіну ў будні ці ў нядзелі –
Беларусь са мною разлучыць пасьмелі.

Я ад вас далёка… скажуць гэтак людзі…
Але хто заглянуў у чужыя грудзі
І паняў хто шчыра той агонь і мора,
Што гарыць, бушуе і аб чым гавора?
Пойме толькі гэта, хто аж да скананьня
Не пазнаў спакою, не пазнаў прыстаньня;
Каго доля-ведзьма ад самой калыскі
Кідала па сьвеце, як той ліст вятрыскі.

Я ад вас далёка… Дзеліць нас паўсьвета, -
А жыву ж я з вамі і зіму, і лета;
Чую з вамі ўвосень непагоды песьню,
Цешуся з праталін вольнага прадвесьня,
І ці сонца ўзыдзе, і ці сонца зайдзе, -
Вечна з думкай там я, мой спакойны край дзе;
З выраю я толькі сустракаю гусі,
Весьці ў іх пытаю з роднай Беларусі.

Музыка Міхася Клейнера
Словы Янкі Купалы

Я ад вас далёка…



## КАМПАКТНЫ ДЫСК З ДЖАЗАВАЙ МУЗЫКАЙ ЗЬМІЦЕРА ЯЎТУХОВІЧА

***Інтэрвію з кампазытарам З. Яўтуховічам Янкі Запрудніка***

Кампазытара Зьміцера Яўтуховіча на Беларусі ведаюць найбольш па шматлікіх песьнях для дзяцей і дарослых, асабліва па дзьвюх: па калыханцы, якою канчаецца штовечару перадача Беларускага радыё для дзяцей "Вячэрняя казка", ды па рытмічнай "Даставай, Язэп, гармонік" (словы Леаніда Пранчака).

Ад 1993 году сям'я Яўтуховічаў жыве ў Саўт-Рывэры, дзе жонка Зьміцера, Іна, сымпатычная маладзіца з вышэйшай музычнай адукацыяй, вядзе хор у саўтрывэрскай беларускай праваслаўнай царкве імя сьв. Еўфрасіньні Полацкай.

Зьміцера можна часта пабачыць і пачуць у Нью-Ёрку й ваколіцах на розных беларускіх урачыстасьцях і таварыскіх сустрэчах. Людзям падабаецца ягоная музыка й вясёла-жартаўлівы тон вядзеньня канцэрту. Зьміцер – чалавек творча актыўны й працавіты.

Цяпер ён шмат працы ўкладае ў рыхтаваньне кампактнага дыску лёгкаджазавай музыкі.

**Пытньне**: Зьмітрок, што новага ў тваім творчым жыцьці?

**Адказ**: Літаральна дзён дзесяць таму Леанід Барткевіч, адзін зь першых удзельнікаў ансамблю "Песьняры", павёз у Менск у новай апрацоўцы на сучасны лад (танцавальны) маю песьню "Даставай, Язэп, гармонік", якую ён зьбіраецца запісаць з ансамблем "Песьняры". Ансамбль рыхтуецца цяпер да свайго 30-годзьдзя, і Лёня будзе выступаць з маёй песьняй у Палацы спорту ў Менску. Трымаю таксама цесную сувязь з Анатолем Ярмоленкам і ансамблем "Сябры".

**П:** Ты займаешся творчай працай ад часу твайго прыезду ў Амэрыку?

**А:** На жаль, Амэрыка забрала пяць гадоў з майго творчага жыцьця, аж пакуль не пайшоў у entertainment business. Цяпер я працую толькі як музыка. Я рашыў сам сабе даказаць, што ў Амэрыцы ёсьць магчымасьць зарабляць на жыцьцё толькі музыкай.

**П:** Ты апрацоўваеш цяпер свой кампактны дыск?

**А:** Так, я працую над джазавым альбомам. У маёй музыцы два напрамкі: лёгкая музыка для фартэпіяна ў суправаджэньні аркестры і так званы cool jazz, такога багатага мяккага гучаньня.

**П:** Кампазыцыі новыя?

**А:** Яны былі напісаныя на працягу апошніх пятнаццаці гадоў, бальшыня напісана ў Беларусі. Усіх у мяне больш за сорак, зь якіх я выбараў шаснаццаць – усё найлепшае, што я напісаў у галіне джазу.

**П:** Ты выдаеш гэта сваім коштам?

**А:** Бязумоўна.

**П:** Гэта-ж дарагая рэч, яна каштуе...

**А:** Яна каштуе тысячы даляраў, бо я апрацоўваю музыку ў прафэсійных студыях (адна зь якіх належыць гітарысту Аляксандру Герасімовічу), не карыстаюся ніякімі дамашнімі студыямі. Прычым у мяне граюць жывыя музыкі -- трубач, саксафаніст, гітарыст і інш. -- усе са стажам, з выдатных калектываў.

**П:** Музыка – рэч абстрактная, але часамі яна зьвязана сваймі каранямі з краем паходжаньня. Ці ў тваёй музыцы будзе нешта айчыннае, роднае – тое, што неадлучнае ад цябе самога?

**А:** Увогуле джазавая музыка – гэта міжнародная музыка. Бязумоўна, радзіма джазу – гэта Амэрыка, хоць ёсьць у джазе карані афрыканскія, ёсьць і лаціна-амэрыканскія, ёсьць і эўрапейскія. Я стараюся наблізіць гучаньне таго, што я запісваю да міжнародных стандартаў (а стандарты гэтыя цяпер вельмі высокія), і спадзяюся, што музыка мая годная таго, каб прагучэць на такой ведамай сваім джазавым рэпэртуарам радыястанцыі, як 101.9. А што да нацыянальнай тэматыкі, дык напрыклад у некаторых кампазыцыях для фартэпіяна я ўжываю тыпова славянскія абароты, тыпова, калі хочаце, беларускія абароты. І слухач пачуе гэта, асабліва ў апошняй кампазыцыі "Пяшчотная пачуцьці Рамзэ". У ёй я ўжываю нешта накшталт беларускіх цымбалаў.

**П:** На тваім дыску будзе 16 кампазыцыяў, кожная зь іх прысьвечана нейкай асобе – тут і твая жонка Іна, дачка Валерыя, і Ігар Лучанок, і Скорыкаў, І Ярмоленка..

**А:** Так. Мне хацелася прысьвяціць кожнаму зь іх свой твор. Прыкладам, кампазыцыя "Парк на ўзьбярэжжы" – яна была створана ў 1986 годзе, калі я са сваім найлепшым сябрам Сяргеем Брыксам, выдатным барабаншчыкам, ехаў у электрычцы з Маладэчна ў Менск і напісаў гэтую мэлёдыю. Важную ролю ў маім жыцьці сыграў Ігар Лучанок, бо ён быў старшынём саюзу кампазытараў, і я прысьвяціў яму адзін са сваіх твораў.

**П:** А ў якіх абставінах нарадзілася кампазыцыя "Салодкая пастараль", якую ты прысьвяціў сваім бацькам, Тацьцяне й Андрэю?

**А:** Гэта адна з самых раньніх маіх кампазыцыяў, напісаная, калі я быў студэнтам кансэрваторыі. Яна мне нагадвае той гарадок, у якім жывуць мае бацькі -- Петрыкаў Гомельскае вобласьці і рэчку Прыпяць, дзе я часта лавіў рыбу, загараў на сонцы.

**П:** Усе шаснаццаць твораў на кружэлцы займаюць колькі часу?

**А:** 73 хвіліны.

**П:** А загаловак твайго дыску будзе які?

**А:** "Таямніца цёмнага акіяну".

**П:** Адкуль гэта?

**А:** Я вельмі люблю акіян і мора. Калі я ўпяршыню быў у Крыме і ўбачыў Чорнае мора – мне тады было 19 год -- яно на мяне зрабіла надзвычайна моцнае ўражаньне. Калі-б я ня ўбачыў мора, дык мне здаецца, што ня пісаў-бы й музыкі. Мора ў маім жыцьці, у тым ліку й беларускае "мора" Нарач, заўсёды адыгрывала вялікую ролю.

**П:** Калі твой дыск, ты думаеш, будзе на рынку?

**А:** Недзе напрыканцы вясны, я спадзяюся.

### Далейшыя ахвяраваньні на Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына...

221. Др. Уладзімір Жарскі $50.oo

Прадаўжэньне ЛІСТЫ ахвярадаўцаў у наступным № нашае газэты...





Сьв. Памяці
## ЮРЫК КОРЧЫК
3-3-1936 — 2-22-2000

Сьв. Памяці Юрык Корчык нарадзіўся ў Далятычах, на Наваградчыне. Памёр у Springfield, MA. USA. Пакінуў ў смутку старэнькую, 89-ці гадовую, матку і шматлікіх сваякоў у Беларусі.

Нябожчык Юрчык быў сталым чытачом нашае газэты і штогадовым ахвярадаўцам у выдавецкі фонд "Беларускага Дайджэсту".

Няхай будзе Яму пухам амэрыканская зямля.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!


Сабор Беларускай Праваслаўнай Царквы, Менск, 1942 год.

## Ў слонімскай бальніцы памёр 72-гадовы Васіль Струпавец

**У 1943 годзе група савецкіх партызанаў расстраляла ў вёсцы Якімавічы Слонімскага раёну ягоную сям'ю: бацьку, маці, двух братоў і маленькую сястру. Сам Васіль Струпавец быў цяжка паранены, але выжыў, каб сьведчыць пра тое ды іншыя злачынствы (у вёсцы й навакольных хутарох савецкія партызаны закатавалі амаль 50 мірных жыхароў, пераважна жанчын, дзяцей і старых). Аднак ні пры савецкай уладзе, ні пры сёньняшнім рэжыме Струпавец так і не дамогся суду над злачынцамі (а ён менавіта хацеў суду, а не самасуду!), многія зь якіх засталіся пасьля вайны жыць на Слонімшчыне. Наадварот, у 1997 г. улады наладзілі праверку праўдзівасьці фактаў, прыведзеных у публікацыі «НН» (за якую газэта атрымала папярэджаньне), якую праводзілі супрацоўнікі дзяржбясьпекі. Факты пацьвердзіліся, але на гэтым справа была закрытая...**

**Струпавец памёр у той час, калі ў Латвіі зноў загучала справа савецкага партызанскага камандзіра Васіля Конанава, нядаўна засуджанага на 6 гадоў турмы за расстрэл мірных жыхароў. За савецкага злачынцу заступіўся галоўны чэкіст расейска-беларускага саюзу...**

**Апошняй воляй Васіля Струпаўца было пахаваць яго на вясковых могілках у Якімавічах, каля агульнай магілы замардаванай ягонай сям'і, ды пакрыць труну сьвятым бел-чырвона-белым сьцягам...**

Сяргей Ёрш

## ЗАЯВА
### Старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь

25-га сакавіка 1918 г. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі прыняла «Трэцюю Ўстаўную Грамату», у якой БНР абвяшчалася "незалежнай і свабоднай дзяржавай". З тых часоў для сумленных людзей нашай краіны дзень 25-га Сакавіка зьяўляецца сьвятам — Днём Волі і Незалежнасьці Беларусі. Адзначыць гэты дзень выйшлі людзі многіх населеных пунктаў краіны і сёлета. Яны несьлі нацыянальныя сьцягі, кветкі, лозунгі, на якіх дэкляраваліся заклікі да волі і незалежнасьці сваёй Радзімы, і як гэта бывае ў такія дні, выказвалі свае патрабаваньні да ўладаў. Сьвяткаваньне жыхарамі Беларусі Дня Волі і Незалежнасьці знайшло шырокую падтрымку сярод нашых суайчыньнікаў і ў шэрагу іншых краін.

Але, на жаль, у самой Беларусі сьвята Дня Волі і Незалежнасьці вылілася ў сапраўдную трагэдыю. У адрозьненьне ад сьвяткаваньня Дня Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якое прайшло мірна, таму што ўлады далі дазвол на шэсьце і мітынг і са свайго боку не праявілі ніякіх правакацыяў, на гэты раз было ўсё наадварот. Рэжым паказаў свой сапраўдны твар. Напалохаўшыся шматтысячнай дэманстрацыі жыхароў краіны, грамадзянін Лукашэнка, які пасьля 20-га ліпеня 1999 г. незаконна ўтрымлівае дзяржаўную ўладу і супраць рэжыму якога ўзбуджана крымінальная справа, даў загад забараніць шэсьце. З самага раньня 25-га сакавіка горад напоўніўся тысячамі ўзброеных "да зубоў" людзей, многія з якіх былі са спэцыяльна падрыхтаванымі сабакамі, на вуліцах і плошчах зьявілася бронетэхніка. Усё гэта нагадвала мінчанам карныя гэстапаўскія апэрацыі часоў Другой сусьветнай вайны.

З паяўленьнем людзей на вуліцах і плошчах іх пачалі хапаць, не разьбіраючы, хто яны і куды ідуць. Безумоўна, што пры гэткім падыходзе да так званай зачысткі вуліц і плошчаў ад людзей, у спецпрыёмнікі і спецангары АМОНу патрапілі ня толькі сотні мірных жыхароў, але і дэпутаты Сойму Польшчы, дыпляматы і журналісты, у тым ліку і расейскія. Пры затрыманьні дзеяньні спецслужбаў адзначаліся жорсткасьцю і бязьлітасьцю: білі старых жанчын і дзяцей, разьбівалі рэпарцёрскую тэхніку і акуляры, нават пагражалі ўжыць сьлёзацечны газ...

Усё гэта ня можа ня выклікаць абурэньня ў сэрцы кожнага сумленнага чалавека, бо названымі дзеяньнямі ўладаў зьневажаюцца правы і свабоды беларусаў, дэкляраваныя ім яшчэ ў 1918 годзе. Але разам з тым нельга не адзначыць, што той страх, які апанаваў дыктатарскі крымінальны рэжым, зьяўляецца пачаткам канца яго існаваньня. І набліжаецца той час, калі ўсе злачынцы, якія сёньня аддаюць крымінальныя загады і выконваюць іх, паўстануць перад Сапраўдным Судом Свайго Народу.

27-га сакавіка 2000 г. *С. Шарэцкі*

## ЗАЯВА
### КІРАЎНІЦТВА ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ "ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦЫШКА СКАРЫНЫ"

***Грамадскі дыялог павінен спрыяць перамовам улады і апазіцыі***

Пасля падзей 25-га сакавіка, калі на вуліцах беларускай сталіцы невядомыя людзі ў масках і без іх хапалі і збівалі нашых і замежных грамадзян, сярод якіх былі журналісты і дыпламаты, пачатак дыялогу грамадска-палітычных сілаў знаходзіцца пад вялікім пытаннем. Калі ў якасці аргументу ўжываецца гумовы дручок і слезацёчны газ, калі 25-га сакавіка сяброў ТБМ затрымліваюць толькі за тое, што яны размаўляюць па-беларуску і маюць на грудзёх значкі з афіцыйна зацверджанай эмблемай ТБМ, удзел нашай арганізацыі ў гэтым дыялогу зьяўляецца вельмі праблематычным.

Аднак у міжнароднай практыцы перамоўны працэс ідзе ў самых розных, нават экстрэмальных, умовах. Таму ТБМ лічыць, што спачатку патрэбна тым сілам на чале з А. Лукашэнкам, якія 1 сакавіка выйшлі з ініцыятывай пачатку грамадскага дыялогу, засведчыць наступныя палажэнні і прынцыпы:

1) Дыялог грамадзка-палітычных сілаў не павінен замяніць сабою перамовы паміж уладамі і апазіцыяй, аб правядзенні якіх было абвешчана ўлетку мінулага году пасля Санкт-Пецярбургскай сесіі Парлямэнцкай Асамблеі АБСЕ.
2) Беларускія ўлады напярэдадні дыялогу вяртаюцца да рэалізацыі пунктаў дамовы паміж экспертнымі групамі прадстаўнікоў улады і апазіцыі аб умовах допуску прадстаўнікоў апазіцыі да дзяржаўных сродкаў інфармацыі.
3) Усе ўдзельнікі дыялогу маюць таксама гарантаваны доступ да дзяржаўных СМІ, што павінна быць абумоўлена адпаведнымі пунктамі рэгламенту дыялогу грамадска-палітычных сілаў Беларусі.

Як мы мяркуем, да ўсяго ўлады мусяць публічна прасіць выбачэнняў у тых людзей, якія былі незаконна затрыманыя 25 сакавіка, і пакараць вінаватых у гэтым. Добры пачатак гэтай справы – афіцыйныя выбачэнні МУС расійскім журналістам. Але дасюль гэтага не было зроблена ў дачыненні да простых грамадзянаў нашай краіны, беларускіх і іншых замежных журналістаў, а таксама дыпламатычных асобаў. З чаго вынікае, што іх беларускія ўлады лічаць за людзей другога гатунку.

Такім чынам, пакуль вышэйпазначаныя патрабаванні не будуць выкананыя, ТБМ перапыняе свой удзел у распачатым дыялогу.

29 сакавіка 2000 г.
Старшыня ГА ТБМ імя Ф.Скарыны
*Алег Трусаў*

### Вельмі ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Моцна просім Вас не забывацца перасланць гадавую АХВЯРУ на Выдавецкі Фонд нашае газэты. "Беларускі Дайджэст" — незалежная газэта, выдаецца толькі дзякуючы вялікай ахвярнасьці людзей добрае волі. Калі ласка, памятайце пра нас... Дзякуем!